# “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры**

**і беларускасьці**

## №18

## Чэрвень 2017

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА
НАЦЫЯ

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №18, чэрвень 2017* *ISSN 2291-4757*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Літаратура*



*Інтэрв'ю*



*Юбілеі*



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў верасьні 2017 года*

*Пётра Мурзёнак*

***Прадмова да 18-га нумара часопіса "Культура, Нацыя", чэрвень 2017***

Дарагія чытачы!

Пасьля Дня Волі-2017 атмасфера несвабоды для беларускай нацыі значна згусцілася. Брутальнымі затрыманьнямі ўдзельнікаў, якія зьбіраліся на сьвята, справа не скончылася. Былі арыштаваныя больш 30 чалавек па так званай справе «Белага легіёна». Відавочна, што на радзіме, з дапамогай прышэльцаў, выцiскаецца апошняе беларускае з паступовым уплятаньнем краіны ў «рускі мір». Падобна на тое, што шмат людзей у антынацыянальным урадзе абараняюць пазіцыі, якія падзяляюць погляды датычныя не да беларускіх інтарэсаў, а да інтарэсаў Прыднястроўя, Пензенскай губерні, «нашага Крыма». У Мінску пастаўлены помнік бязлікаму паліцэйскаму часоў імперскай Расіі, пад Брэстам высадзіліся расійскія дэсантнікі, якія з беларусамі і чамусьці з сербамі, спрабуюць ваяваць з умоўнымі тэрарыстамі, міністр замежных спраў Расіі сп. Лаўроў заяўляе ў Маскве ў пачатку чэрвеня 2017 года аб увядзеньні сумесных віз на тэрыторыі Беларусі і Расіі, наперадзе чакаюцца вялікія вайсковыя манёўры расійскіх войск на тэрыторыі Беларусі. Пад уплывам маскоўскай і мясцовай прапаганды больш за 60% насельніцтва Беларусі, па звестках лабараторыі Вардамацкага, схільны да саюза з Расіяй ... Спіс можна падоўжыць. Аднак, ён будзе сьведчыць толькі аб паступовым уцягваньні Беларусі, у якасьці поўнасьцю залежнай калоніі, у склад Расіі.

Паступовая здача нацыянальных інтарэсаў, якая праводзіцца апошнія 20 год, ставіць пад пагрозу суверэнітэт і незалежнасць беларускай дзяржавы. Тая рыторыка, якую можна пачуць ад міністра замежных спраў краіны, сп. Макея, адносна балансаваньня зьнешняй палітыкі пры адначасовым прызнаньні прыярытэтным накірункам расійскі, нікога не павінна ўводзіць у зман. Падаецца, што адзіным выйсьцем для аўтарытарнага кіраўніцтва зберагчы ўладу можа быць правядзеньне канстытуцыйнага рэферэндума аб прызнаньні Беларусі нейтральнай дзяржавай. Правядзеньне такога рэферэндума падаецца мэтазгодным вядома ж не для таго, каб аўтарытарны рэжым выжыў – станоўчае галасаваньне на такім рэферэндуме пакідае маральны шанец беларусам для будаўніцтва нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы.

Беларусам неабходна прыкласьці ўсе намаганьні каб у такіх складаных умовах зберагчы нацыянальную ідэнтычнасць і заняць сваё дастойнае і адрознае месца ў сьвеце.

**НАС ЛЕГІЁНЫ**

Белыя легіёны – сьветлыя душы,

Чужых батальёнаў – цёмныя тушы.

З чыстых памкненьняў герояміі сталі,

Хлопцаў стальных зламаць вораг не ў стане.

Помыслы чыстыя, мукі сьвятыя

Адолеюць злобу засланцаў-батыяў.

Гуртуемся мірна – нас легіёны,

Крывіцкая праўда мацней батальёнаў.

- * - * - * - * -

18-ты нумар часопіса пачынаецца са «Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі». «Стратэгія» паступова дапаўняецца на прапановы беларусаў. Мы запрашаем чытачоў дасылаць свае водгукі і прапановы па паляпшэньню зьместу «Стратэгіі» на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com. Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач.

Рэдакцыя часопіса просіць зьвярнуць увагу на апытаньне пра нейтральнасць Беларусі, якое размешчана на нашым вэб-сайце www.sakavik.net ў раздзеле аб'явы. Нейтральнасць Беларусі з'яўляецца адным з вызначальных момантаў абмяркоўваемай «Стратэгіі». Будзем удзячны, калі вы знойдзеце пару хвілін, каб выказаць свае адносіны да магчымасьці нейтральнага стану Беларусі.

Сёлетні год адметны для Беларусі 500-гадовым юбілеем кнігадруку – Францыск Скарына ў 1517 годзе ў Празе упершыню выдаў кнігу на старабеларускай мове.

Рэдакцыя плануе зьмясціць матэрыялы, прысвечаныя гэтай адметнай для беларускай нацыі даце ў наступным верасьнёўскім нумары часопіса “Культура, Нацыя”.

15-16 ліпеня 2017 года у Мінску пройдзе Сёмы з’езд беларусаў сьвету. Часопіс “Культура, Нацыя” шчыра вітае ўдзельнікаў сусьветнага форума, зычыць ім плённай працы і выказвае ўпэўненасць, што рашэньні, прынятыя на з’ездзе, у значнай ступені будуць спрыяць далейшаму станаўленьню і развіцьцю беларускай нацыянальнай дзяржавы.

Арыгінальныя матэрыялы часопіса пачынаюцца раздзелам *“Краязнаўства”*, які арганізаваўся дзякуючы даследчыкам Пастаўскага краю, сп. І. Пракаповічу і сп. В. Шышко. Рэдакцыя вельмі ўдзячна за іх удзел у працы часопіса. Сябры рэдакцыі лічуць, што чытачы з цікавасьцю пазнаёмяцца з гіпотэзай сп. Пракаповіча аб паходжаньні назвы мястэчка Мядзел, а таксама з думкамі сп. Шышко аб ролі краязнаўства ў станаўленьні нацыянальнай ідэнтычнасьці ў час глабалізацыі. У гэтым жа раздзеле прадстаўлены зьвесткі аб стане школьніцтва на Пастаўшчыне пасьля другой сусветнай вайны, прадстаўленыя сп. Пракаповічам.

У раздзеле *“Канферэнцыі”* публікуюцца матэрыялы, прадстаўленыя сябрамі Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ) на штогодным кангрэсе Федэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук Канады, які адбыўся 27 мая – 2 чэрвеня 2017 года ў Таронта. Усе даклады, зробленыя сябрамі БІНІМа на англійскай або беларускай мове, непасрэдна зьвязаныя з пытаньнямі жыцьця беларускай нацыі. Гэта і характарыстыка стану пратэстантызму ў гістарычным плане ў Беларусі (сп. Ю. Рапецкі), асэнсаваньне беларускай ідэнтычнасьці сярод прадстаўнікоў дыяспары (сп. М.-П. Сурвілла), сучаснае разуменьне ўзаемаадносін глабалізацыі і нацыянальнай ідэнтычнасьці з гістарычнага пункту гледжаньня і з улікам “памежнасьці” беларускай дзяржавы і прыгнечанага стану беларускай мовы (сп. Г. Туміловіч), аналіз кнігі Р. Барадуліна “Каб толькі яўрэі былі! Кніга павагі і сяброўства!”, прысвечанай дабрачыннай шматвекавай гісторыі паміж хрысьціанскімі і яўрэйскімі беларусамі (сп. З. Гімпелевіч), аналіз дзейнасьці часопіса “Культура, Нацыя” ў 2012-2017 гг. (сп. Н. Баркар), вызначэньне месца ў класіфікацыі цывілізацый для усходнеславянскай, беларуска-украінскай цывілізацыі, як субцывілізацыі заходняй цывілізацыі (сп. П. Мурзёнак).

У раздзеле *“Літаратура”* зьмешчаны верш і невялікае апавяданьне сп. І. Пракаповіча. Рэдакцыя часопіса будзе вітаць матэрыялы іншых аўтараў з Беларусі ў гэтым раздзеле. Для ведама, беларускія аўтары замежжа маюць магчымасць

публікаваць свае творы, вершы і прозу, у Альманаху “Беларус”, які выдаецца ў Н’ю-Ёрку (рэдактар, сп. М. Клакоцкі).

У разделе *“Інтэрв’ю”* часопіс “Культура, Нацыя” зьмяшчае поўны тэкст інтэрв’ю сп. Ю. Рапецкага, якое ён даў часопісу “Крыніца жыцьця”, дзе яно будзе надрукавана ў скарочаным выглядзе.

Рэдакцыя часопіса “Культура, Нацыя” шчыра віншуе свайго калегу, сп. С. Панізьніка, з 75-гадовым юбілеем і зычыць яму добрага здароў’я і далейшай плённай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны. У гэтым жа раздзеле *“Юбілеі”* мы публікуем падборку матэрыялаў, падрыхтаваных сп. С. Панізьнікам і прысьвечаных 80-годдзю сп. Ніне Дэбольскай, вядомаму перакладчыку вершаў беларускіх паэтаў.

У канцы часопіса зьмешчаны календар важнейшых дат гэтага года.

Прыемнага чытаньня.
*Рэдактар часопіса,*
*Пётра Мурзёнак*

*Editorial*

Piotra Murzionak: **Preface to the 18th issue of "Culture, Nation", June 2017, *pp.5-11***

Dear readers!

After March 25, 2017 un-freedom atmosphere for the Belarusian nation has been considerably thickened. Brutal arrests of participants, who were going on a celebration of Independence Day, it's not finished. About 30 people were arrested in the so-called case of the "White Legion". It is obvious that at homeland the last Belarusian will is squeezed by oriental and other aliens with gradual including of Belarus into the "russian world".

It seems that many people in the anti-national government protect the position of those who share views and interests of Transnistria, the Penza province, and "our Crimea/ Krym nash" but not the interests of Belarus. In Minsk a monument of faceless policeman from Imperial Russia times was settled, near Brest landed Russian paratroopers, who with Belarusian military and for some reason with the Serbs are trying to fight with conventional terrorists, Foreign Minister of Russia S. Lavrov said in Moscow in the beginning of June 2017 about the introduction of common visa on the territory of Belarus and Russia, ahead are expected large military maneuvers of Russian troops on the territory of Belarus. Under the influence of Moscow and local advocacy for more than 60% of the population of Belarus, according to the laboratory Vardamatski, inclined towards an alliance with Russia ... The list can be extended. However, it will testify only about the gradual involvement of Belarus as a totally dependent colony to Russia.

Gradual surrender of national interests pursued by the past 20 years threatens the sovereignty and independence of Belarus. The rhetoric that can be heard from the Minister of Foreign Affairs, Mr. Makej, about balancing of foreign policy, while recognizing the priority of Russia, one should not be misled. It seems that the only way for the authoritarian leadership to save power may be holding a constitutional referendum on the recognition of Belarus as a neutral state. Conducting of such a referendum is certainly not advisable to have survived the authoritarian regime - a positive vote on this

referendum leaves the moral rights for Belarusians and a chance to build a neutral, national state. Belarusians need to make every effort so that in such difficult conditions to preserve national identity and take its rightful and distinctive place in the world.

……………………………………………

The 18th issue of the magazine begins with the "Strategy of Development of the Belarusian Nation". "Strategy" is gradually supplemented by suggestions of Belarusians. We invite readers to send their comments and suggestions to improve the content of the "Strategy" at: chasopis.sakavik@hotmail.com Editorial Board asks organizations who basically agree with the provisions of the Strategy to join the implementation of its tasks.

Editorial Board drew attention to a survey on the neutrality of Belarus, which is located on our website www.sakavik.net in the classified section. The neutrality of Belarus is one of the defining moments of discussion of the "Strategy". We would be grateful if you could find a few minutes to express your attitude to the possibility of a neutral state of Belarus.

This year is the special year for Belarus by 500th anniversary of book-printing - Frantsysk Skaryna for the first time published a book in the Old Belarusian language in Prague in 1517. We plan to put the materials devoted to this aspect of the Belarusian nation life in this September issue of the magazine "Culture, Nation".

On 15-16 July 2017 Minsk will host the Seventh Congress of Belarusians of the World. The magazine "Culture Nation" warmly welcomes the participants of the World Forum, wishes them the fruitful work and expresses a confidence that the decisions taken at the Congress, will greatly contribute to the further development of Belarusian national state.

The original materials of the magazine introduces the section "*Regional studies*", which was organized thanks to researchers of Pastavy region (Vitebsk province), Mr. I. Prakapovich and Mr. V. Shyshko. The editors are very grateful for their participation in the work of the magazine. We believe that readers with interest acquainted with the Prakapovich’ hypothesis on the origin of the name of Myadzel village, as well as the views of Mr. Shyszko on the role of local history in the formation of national identity in the globalization era. This section also provides information on the status of schools and education in Pastavy region after World War II presented by I. Prakapovich.

In the section "*Conferences*", materials submitted by the members of the Belarusian Institute of Science and Arts in Canada (BINIM) at the Annual Congress of the Federation of Humanities and Social Sciences in Canada, which took place on May 27 - June 2, 2017 in Toronto, are published. All reports made by friends of BINIM in English or Belarusian language directly related to the issues of life of the Belarusian nation. Among them, characterization of the state of Protestantism in Belarus (Yu. Rapetski), understanding of the Belarusian identity among diaspora (M.-P. Survila), the current knowledge of the relationship of globalization and national identity from a historical point of view taking into account the "borderline status" of the Belarusian state and the oppressed status of the Belarusian language (G. Tumilovich), the analysis of the book by R. Borodulin "If only Jews were here! The book of respect and friendship" dedicated to a centuries charity between Christians and Jewish Belarusians (Z. Gimpelevich), the analysis of magazine activity "Culture, Nation " in 2012-2017 (N. Barkar), determination of the place in the classification of civilizations for the Eastern Slavic, Belarusian-Ukrainian civilization as sub-civilization of Western civilization (P. Murzionak).

For the first time the magazine opens the section "*Literature*", which placed a poem and short story of I. Prokopovich. The editorial board will welcome contributions from other authors from Belarus in this section. For information, the Belarusian authors in diaspora have the opportunity to publish their works, poems and prose, in the Almanakh "Belarus" which is published in New York City (editor M. Klakotsky).

The "*Interview*" section of magazine "Culture Nation" contains the full text of the interview Yu. Rapetski, which he gave to the magazine "The Source of Life", where it will be published in an abbreviated form.

The editorial board of "Culture, Nation" congratulates his colleague, Mr. S. Paniznik, with 75-year anniversary and wished him good health and further fruitful work for the good of our country. In the same section "*Anniversaries*" we publish a selection of materials prepared by Mr. S. Paniznik dedicated to the 80th anniversary of Nina Debolskaja known translator of poems of Belarusian poets.

At the end of the magazine the most important calendar dates this year are placed.

*Wishing you pleasant reading.*

*Piotra Murzionak*

*Дыскусія: "Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасьць. 2015 - 2017"*

## "СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ"

*Праект "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі" упершыню апублікаваны на старонках часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" 6 лютага 2016 года. У першапачатковай распрацоўцы праекта прымалі ўдзел: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская. Рэдакцыя часопіса выказвае шчырую ўдзячнасць сп. А. Астроўскаму, сп. М. Кеньку, сп. В. Станішэўскаму, сп. В. Шышко, сп. В. Якавенку, сп. З. Гімпелевіч, сп. Ю. Рапецкаму, сябрам Асіповіцкай арганізацыі ТБМ за крытычныя заўвагі, дапаўненьні і праўкі па стылю і мове дакумента. Апошнія прынятыя зьмены падкрэслены.*

*Праект "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі" быў апублікаваны на старонках нашага часопіса "Культура, Нацыя" (6 лютага 2016 года), газеты "Наша Ніва" (7 лютага, на старонках газеты "НН" было 55 каментараў), газеты "Новы час", на вэб-сайтах Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы, "Мы – нацыя", "Наша зямля", "Пагоня" (Чэхія), Belarus News. Праект абмяркоўваўся беларускай рэдакцыяй Польскага радыё (27 лютага 2016 года) і на "Белсаце" (12 сакавіка 2016 года).*

*Прадстаўлены дакумент Стратэгіі адкрыты для далейшай дыскусіі. Калі ласка, свае каментары і заўвагі дасылайце на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com*

*Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач.*

*"Стратэгія развіцьця беларускай нацыі" публікуецца ў кожным нумары у скарочаным варыянце – мэта, задача, падыходы і сродкі для яе рэалізацыі, з дапаўненьнямі, якія з'явіліся за перыяд перад выхадам чарговага нумара часопіса. З абгрунтаваньнем "Стратэгіі" чытачы могуць азнаёміцца ў часопісе "Культура, Нацыя", №13, сакавік 2016, с. 27-34.*

## «СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ»

### *Мэта Стратэгіі*

**Мэтай Стратэгіі з'яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў і прадстаўнікі нацыяўтваральнага этнаса - беларусы.**

### *Задачы, які вынікаюць з характарыстыкі сучаснага стану беларускай нацыі і пастаўленай мэты*

Распаўсюджваць ідэю аб атрыманні краінай нейтральнага стану праз правядзенне рэферэндума і замацаванні гэтага палажэння ў Канстытуцыі РБ.

Падтрымліваць і прапагандаваць, абапіраючыся на гістарычныя факты, ідэю аб этнічнай гістарычнай унікальнасці беларускай народа, развіццё якога істотна адрозніваецца ад развіцця народаў Расіі. Лічыць ідэю аб трыадзінстве усходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе і шкоднай.

Падтрымліваць ідэю пераемнасці ў гістарычным развіцці беларускай дзяржаўнасці. Дабівацца сусветнага прызнання выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцці Вялікага Княства Літоўскага - вялікай еўрапейскай дзяржавы мінулага, на тэрыторыі якой сёння пражываюць людзі сучасных незалежных краін, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны і Расіі. Першыя княствы на тэрыторыі Беларусі, Вялікае Княства Літоўскае, станаўленне (БНР, БССР) і здабыццё незалежнасці Рэспублікі Беларусь, - усе гэтыя перыяды з’яўляюцца састаўнымі часткамі нашай нацыянальнай гісторыі. Выцісканне і прыніжэнне любога гістарычнага перыяда не адпавядае інтарэсам нацыі.

Для папярэджання пагрозы страты незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь праз ваенныя, эканамічныя ці культурныя механізмы супрацьстаяць ідэалогіі “русского мира” і н’юеўразізма, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага расійскага шавінізму.

Не падтрымліваць будаўніцтва цывільнай і рускамоўнай дзяржавы, і адначасова працягваць пошук актыўнага ўзаемадзеяння з мясцовымі ўладамі ў рамках законаў,

як індывідуальна, так і арганізаванымі групамі грамадзян, для паляпшэння сітуацыі ў адносінах да мовы (садкі, класы, школы, дакументацыя), гісторыі (назвы вуліц, памятныя знакі) і па іншых пытаннях.

На сучасным этапе праводзіць асветніцкую дзейнасць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, элітарнай і мас-культуры і традыцый беларускага народа (Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР, БССР, адраджэнне 90-х), не збаўляючы высілкаў па вызваленні беларускай мовы з прыгнечанага стану. Дабівацца раўнапраўнага, непрымусовага ўжывання беларускай мовы ў дзяржаве, стварэння нарматыўнай базы на мове тытульнай нацыі.

Патрабаваць выкананне "Закона аб мовах" і стымуляваць выкарыстанне Мовы ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця, ужываючы ўсе магчымыя падыходы і сродкі, прадстаўленыя ў "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі" (2012), уключаючы: адкрыццё беларускіх нацыянальных універсітэтаў, правядзенне лекцый і ўрокаў вучням і студэнтам на беларускай мове, заахвочванне грамадзян Беларусі аддаваць дзяцей у беларускія садкі і школы, мовазнаўчую і інфармацыйную падтрымку беларускай рэкламы прадуктаў і тавараў, заахвочванне рэлігійных абшчын розных канфесій да правядзення багаслужбы на беларускай мове, заахвочванне грамадскіх арганізацый нацыянальных меншасцяў да вывучэння беларускай мовы і гісторыі, заахвочванне грамадзян Беларусі і адпаведных рытуальных агенцтваў ужываць беларускую мову на надмагільных надпісах.

Стварыць агульны нацыянальны інфармацыйны канал і шэраг інфармацыйных пляцовак (газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне), пабудаваных па прынцыпу грамадскіх СМІ, на якія не змогуць ўплываць і ціснуць ідэалагічныя структуры аўтарытарнага рэжыму.

Даводзіць грамадству інфармацыю пра ўсе станоўчыя праяўленні беларускасці і рэагаваць на ўсе без выключэння праявы этнацыду беларусаў. Шанаваць і развіваць гонар за дасягненні, якія мае беларускі народ сёння.

Папулярызаваць нацыянальных дзеячаў, зрабіўшых найбольшы ўклад у развіццё нацыі: І. Насовіч, Н. Орда, В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, Б. Эпімах-Шыпіла, І. Луцкевіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, У. Галубок, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч, М. Багдановіч, А. Чарвякоў, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Л. Геніюш, М. Ермаловіч, В. Быкаў, А. Адамовіч, У. Караткевіч, М. Крукоўскі, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, У. Мулявін, і іншых беларускіх дзеячаў.

Папулярызаваць і адзначаць нацыянальныя святы, якія пакуль што не значацца ў афіцыйным календары: 25 сакавіка – Дзень Волі, першае абвяшчэнне незалежнасці краіны, Беларускай Народнай Рэспублікі; 15 ліпеня – Грунвальдская бітва; 27 ліпеня – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь; 8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы, 27 лістапада – Слуцкі збройны чын.

## *Падыходы і сродкі рэалізацыі*

1. У сваіх адносінах паміж людзьмі, якія будуць падтрымліваць рэалізацыю “Стратэгіі развіцця беларускай нацыі” пажадана прытрымлівацца “Кодэкса гонару”: лічыць, што ўдзел у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы гэта вялікі гонар для беларусаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў; праяўляць узаемапавагу і падтрымку; крытычна і абгрунтавана вясці спрэчкі, не дапускаючы пры гэтым абраз і спасылак на неправераныя факты; быць талерантнымі да выказванняў апанентаў; максімальна ўжываць беларускую мову дома і па-за домам; прытрымлівацца адзіных падыходаў пры выкананні задач Стратэгіі; пазбягаць фракцыйнасці - пабудаваць нацыянальную дзяржаву можна толькі праз адзінства людзей, незалежна ад таго, прыхільнікамі якіх партый, рухаў, рэлігійных і іншых плыняў яны з’яўляюцца.

2. Давесці змест Стратэгіі да максімальнай колькасці грамадзян РБ. Пажадана каб тэкст Стратэгіі мела кожная сям’я.

3. Рэалізацыя Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае).

4. Мець на ўвазе, што для рэалізацыі Стратэгіі больш важным з’яўляецца выхаванне і падтрымка адпаведнага нацыянальна-свядомага настрою ў грамадстве ў доўгатэрміновай перспектыве, чым нават наяўнасць ці адсутнасць матэрыяльных магчымасцяў.

5. Паступовае пашырэнне кола нацыянальна свядомых грамадзян РБ праз асвету і правядзенне пастаянных і рэгулярных акцый, скіраваных на выкананне пастаўленых задач, з удзелам адбудаванай адкрытай грамадзянскай супольнасці як унутры краіны, так і за яе межамі.

6. Для вырашэння задач стратэгіі, ва ўмовах абмежаванага доступу да СМІ і адсутнасці дапамогі з боку дзяржавы, выкарыстоўваць усе наяўныя і шукаць новыя сілы і сродкі беларускага грамадства, прыхільных да нацыянальнай ідэі грамадзян РБ, спонсараў, інтэрнэт-рэсурсы, незалежныя і дзяржаўныя СМІ.

7. Шукаць магчымасці лабіравання нацыянальных інтарэсаў шляхам народнай дыпламатыі і праз спробы наладжвання дыялогу з тымі супрацоўнікамі праўладных структур і колаў, якія падзяляюць акрэсленую сістэму каштоўнасцяў.

*Discussion "The Nation Building and Modernity – 2015-2017"*

**"Strategy of the Belarusian Nation Development"** (updated up to June 20, 2017).
***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp. 12-16)***

"The Strategy of the Belarusian Nation Development" was firstly published in the magazine "CULTURE, NATION" in March 2016 (issue 13, pp. 27-34). In every issue of the magazine we provide now updated versions of "The Strategy". The aim of "the Strategy" is to build a neutral, national state in which absolutely equal rights will have representatives of national minorities and representatives of predominant ethnicity - Belarusians. The Strategy includes tasks, approaches and resources to realize the national idea. We are grateful to all people participating in the discussion. Naturally, the magazine is waiting for new comments, so that as much as possible to improve "the Strategy".

*Краязнаўства*

**Ігар Пракаповіч: Мядзел – новая версія паходжання назвы**

У артыкуле разглядаецца новая арыгінальная гіпотэза ўтварэння на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі і ўсходняй Літвы геаграфічных назваў з асновамі “мед-“, “мяд-“ (Мядзел, Мядзелка і падобныя). Аўтар звязвае іх паходжанне з найменнем народа “меды”, які ў часы Аляксандра Македонскага жыў па далінах рэк Струмы і Струмніцы ў паўднёва-заходняй частцы сучаснай Балгарыі. Ратуючыся ад уціску больш магутных суседзяў гэты народ (або яго частка) перасяліўся на тэрыторыю сучаснай Беларусі. У якасці доказаў аўтар прыводзіць гістарычныя факты і выяўныя тапанімічныя паралелі, якія ствараюць добрую глебу для далейшых даследаванняў у рэчышчы вылучанай гіпотэзы.



Адным з самых загадкавых найменняў паўночна-заходняй Беларусі з’яўляецца Мядзел. Такую назву маюць возера і горад, вельмі блізкую – рака Мядзелка. Мясцовы тапанімічны ландшафт ускладняюць і заблытваюць падобныя назвы, якія адносяцца да розных аб’ектаў: Мядзел на возеры Мядзел, Мядзел на возеры Мястра, Стары Мядзел, Новы Мядзел, Малы Мядзел. У энцыклапедыі Бракгаўза і Ефрона чытаем: “Мядзиол или Мядзел (Старый и Новый) — мст. Виленской губ., Вилейского у.: 1) Новый, при оз. Мястро, существовал в XV в. Жителей 783, дворов 99; прав. црк., костел, синагога, школа, богадельня, 3 лавки. 2) Старый, при оз. Мястро и Нарочь. Прежде был городом. Жителей 312, дворов 46, прав. црк., еврейский молитв. дом, пивоваренный завод.”

Калі зазірнём у гісторыю, то ўбачым, што ў старажытнасці замак Мядзел магутна ўзвышаўся над хвалямі аднайменнага возера на адной з яго высокіх выспаў. На гэтым востраве Замак да сённяшняга часу яшчэ захаваліся рэшткі ўмацаванага паселішча XI стагоддзя - памежнай крэпасці Полацкага княства. Яна ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах ад 22 верасня 1324 года ў пасланні вялікага князя Гедыміна епіскапам Дэрпцкаму, Эзельскаму, Дацкаму, намесніку зямлі Рэвельскай і радзе горада Рыгі. Дакумент паведамляе, што крыжакі Тэўтонскага ордэна парушылі мір, а *“...таксама яны бадай што захапілі б наш замак Мядзела, калі б ён не быў так добра ўмацаваны, аднак яны забілі мноства людзей, а іншых павялі з сабою.”*

Узнікае пытанне, чаму сучасны Мядзел знаходзіцца не на беразе аднайменнага возера, а за 8 кіламетраў на поўдзень ад яго каля возера Мястра? Гэту неадпаведнасць спрабуе растлумачыць мясцовае паданне, паводле якога ў раннім сярэднявеччы тутэйшыя мясціны ахапіла эпідэмія хваробы. У час мору амаль усе жыхары замка і ваколіц вымерлі, і толькі дзве ацалелыя сям’і перасяліліся на паўночны бераг бліжэйшага возера. Новае паселішча захавала старую назву. У гістарычныя крыніцы яно ўвайшло як Стары Мядзел. Пазней частка людзей з паўночнага берага возера Мястра перабралася на паўднёва-ўсходні пры рэчцы Дробня, дзе і з'явілася паселішча Новы Мядзел. Быццам бы ўсё лагічна, але… Па звестках археолагаў, старажытныя паселішчы на месцы сучаснага Мядзела ўзніклі значна раней, чым на востраве Замак возера Мядзел. На беразе Мястра першыя людзі прыйшлі неўзабаве пасля раставання ледавіка. Возера ў тыя часы было значна большае па памерах, чым цяпер, і адна з яго мелкаводных заток заходзіла далёка на ўсход, пакрываючы вадой лагчыну паміж Старым і Новым Мядзелам, балота Крохава і цягнулася аж да Навасёлак. Пасярод гэтай затокі была невялікая пясчаная выспа, на якой прыблізна 7-8 тысяч гадоў таму заснавалі паселішча старажытныя людзі.

Пра гэта даведаліся ў 1983 годзе, калі вядомы беларускі археолаг, ураджэнец Мядзельшчыны, М. Чарняўскі правёў тут раскопкі, у выніку якіх былі знойдзены некалькі правільна агранены крамянёвых пласцінак. Лічыцца, што яны належалі людзям сярэднекаменнага, або мезалітычнага часу.

Крыху пазнейшае паселішча старажытных людзей эпохі неаліту ў межах Мядзела выявіў археолаг М. Ткачоў у 1981 годзе на селішчы паўвострава Замак. Калекцыю знаходак склалі агнішчы, печы-каменкі, крамянёвыя ножападобныя пласціны, крамянёвыя наканечнікі стрэл, кавалкі даўнейшых ляпных жбаноў. Пазней каля селішча ўзнікла гарадзішча, ганчарную кераміку з якога археолагі адносяць да XI — XIII стагоддзяў.

На востраве Замак возера Мядзел таксама захавалася гарадзішча. Яно мае памеры 50 х 70 метраў і займае мыс узвышша, вышыня якога над узроўнем вады ў возеры перавышае 10 метраў. З боку сушы цвярдыня мацавалася дадаткова падкovападобным гліняным валам вышынёй да 5 метраў, схілы якога былі абкладзены камянямі-валунамі. Археолагі знайшлі ганчарную кераміку X-XV стагоддзяў, жалезныя нажы, тачыльныя брускі, шыферныя прасліцы, абломкі жорнаў, кавалкі шлаку, косці жывёл, птушак, рыб. У насыпе вала выяўлены рэшткі апаленых драўляных канструкцый, якія сведчаць пра тое, што замак меў яшчэ і абарончыя сцены. Слаі попелу дазваляюць зрабіць выснову, што ўмацаванае паселішча тры разы нішчыў пажар.

Вакол гарадзішча знаходзілася неўмацаванае селішча. У час раскопак выяўлены кавалкі жбаноў XI-XII стагоддзяў, кераміка XIII стагоддзя, тачыльны брусок, бронзавая спражка з язычком, іншыя бытавыя рэчы. Таўшчыня культурнага пласта складае 60-70 сантыметраў. Жыццё на Замку спынілася ў першай палове XV стагоддзя.

На цяперашні час існуе каля дзесяці версій паходжання назвы Мядзел, але пераканаўчага тлумачэння ўсё ж няма. Складанасць у тым, што найменне не мае ўсталяванага напісання і гучання, таму і сэнс яго можа быць звязаны са словамі розных блізкіх і далёкіх моў. Назва горада сустракаецца ў розных варыяцыях: Medelo, Miedlzielo, Miedzialo, Miedziela, Miedzial, Medilas, Medal, Miedal, Medel, Minory Medalo, Medzia, Miadzial, Miadzioł, Miadziol, Miadely, Міадзюл, Міадзюль, Міатдзель, Мяздол, Міаздолы, Мядзела, Мядила, Мядела, Міадел, Мядель, Мядзель, Медадзел.

Легенда тлумачыць з’яўленне горада і назвы наступным чынам: *“Калісьці даўно адзін паляўнічы, блукаючы па тутэйшых лясах, знайшоў вялікае дрэва з дуплом, у якім было вельмі многа мёду. Пасяліўся той чалавек на беразе маляўнічага возера і стаў разводзіць пчолы. У хуткім часе сустрэў добрую дзяўчыну, і пачаўся ад іх род працавітых, прыгожых і гасцінных людзей, ад якіх пайшла мясцовая традыцыя частаваць падарожнікаў і гасцей мёдам. Адсюль нарадзілася і назва: “Мядадзёл” – гэта месца, якое дае мёд”.* Але падобна на тое, што гэта легенда - не старадаўняе народнае паданне, а штучна прыдуманы наватвор для таго, каб неяк звязаць найменне паселішча з мёдам.

Навукоўцы вылучаюць свае версіі паходжання назвы. Вось як спрабуе раскрыць яе доктар філалагічных навук А. Рогалеў: “Звычайна назву Мядзел тлумачаць пры супастаўленні з літоўскім словам *medis* ці прускім *median* – “дрэва”. У балцкіх мовах ёсць яшчэ адпаведныя словы у значэнні “лес”. Атрымліваецца, што Мядзел

— гэта як быццам “лясны, драўляны замак”. Парубежнае полацкае паселішча Мядзел сапраўды мела драўляныя ўмацаванні. Але ж сама назва спачатку датычылася возера Мядзел і толькі потым была перанесена па прынцыпу сумежнасці на ўмацаваны населены пункт.

Значэнні ўказаных слоў з балцкіх моў развіліся на падставе іншага значэння — “зараснікі на мяжы, на граніцы зямель, уладанняў”. Суаднесенасць значэнняў “граніца—лес” вядома ў самых розных мовах. Цікава адзначыць, што старажытнапрускае слова *median* — “дрэва” з'яўляецца роднасным рускаму і беларускаму слову “межа” (мяжа) і старажытнаіндыйскаму *median* — “сярэдзіна”. Полацкая крэпасць Мядзел стаяла якраз на граніцы полацкіх зямель. Аднак яшчэ да ўзвядзення гэтай крэпасці само возера Мядзел, як можна меркаваць, таксама асэнсоўвалася як “парубежнае возера” або “возера сярод парубежнага лесу”. Відаць, здаўна яно раздзяляла землі славян-крывічоў і балтаў. Назва Мядзел і нарадзілася ў балта-славянскім моўным асяроддзі.”

Блізкім да гэтага з’яўляецца меркаванне, што назва ўтварылася ад старажытнаславянскага слова “медза” у значэнні “пагранічны слуп”, які ставіўся на мяжы княстваў. Асобныя даследчыкі выказваюць думкі аб магчымай сувязі “Мядзел” з металам медзь, або з медніцай – дробнай меднай манетай, або з мёдам, які нарыхтоўваўся тут пчалярамі-бортнікамі ў вялікай колькасці. Аўтары гэтых версій, верагодна, адчуваюць іх хісткасць, бо важкіх доказаў іх правільнасці фактычна не існуе.

Разглядаючы варыянты шляхоў утварэння назвы даследчыкі звычайна абмяжоўваюцца найменнямі горада, возера і ракі, не звяртаючы ўвагі на іншыя геаграфічныя аб’екты з падобным гучаннем і напісаннем. А іх у гэтым рэгіёне знаходзіцца шмат, прычым, не толькі населеныя пункты і вадаёмы, але і лясныя масівы. Карыстаючыся сучаснымі і гістарычнымі картамі паспрабуем скласці спіс аб’ектаў з асновамі “мед-“, “мяд-“, не ўлічваючы пакуль назвы, якія ўтвораныя ад слова “мядзьведзь”. Вось што атрымліваецца: Медрыкі каля Солаў, Мендляны і Мядзіны каля Астраўца, Мядзенішкі каля Міхалішак, Мядынкі каля Браслава і Відзаў, Мядынкі, Мядыны і Медзюкі каля Опсы, Мядзелка каля Варапаева, Мядзел і возера Мядзел на Мядзельшчыне. У суседняй Літве знаходзім Міндзяны, Мядзінінкай, Мядзюны, Мядзейшай, Мядзінас (2 назвы), Мяджюшкай, возера Медувіс, лес Меджыжэсе. Да гэтага раду варта далучыць таксама лес Мядзель каля Швакштаў і лес Мядзель каля Свіранаў. Не выключана, што і возера Мястра раней гучала як Мядстра, а пазней, з прычыны груваcткасці ў прагаворванні чатырох зычных разам, “д” проста выпала.

Варта звярнуць увагу і на тое, што ў тутэйшым рэгіёне даволі часта сустракаюцца прозвішчы з асновай “мяд-“, “мед-“: Мядзельскі, Мядзелец, Мядынскі, Мядзель, Мядзёлка. Звязваць іх паходжанне з Мядзельскім замкам, або са словамі, якія маюць значэнне “лес” або “мяжа” выглядае досыць ненатуральна.

Таксама заўважым, што назвы з каранямі “мяд-“, “мед-“ канцэнтруюцца пераважна на беларуска-літоўскім памежжы, сустракаючыся адзінкава на астатняй тэрыторыі нашай краіны. Праўда, у цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі ёсць даволі многа найменняў, якія ўтвораны ад слова “мядзьведзь”: Мядзведзева, Мядзведзі, Мядзведзіца, Мядзведзічы, Мядзвёдка, Мядзведкі, Мядзведня, Мядзвежжа і іншыя.

Шырокі спектр тапонімаў з асновамі “мяд-“, “мед-“ падштурхоўвае да думкі, што крыніцай іх утварэння была назва якогасць народа, або імя яго правадыра-важдзя. Ці існаваў такі этнас з найменнем “мед” або “мядзь”? Ці мог ён патрапіць у тутэйшую мясцовасць?

У старажытнай рускай крыніцы “Повесть временных лет” такое племя не згадваецца, але ў творах старажытных еўрапейскіх гісторыкаў сустракаецца даволі часта ў розных блізкіх па напісанню формах: “меоты”, “мідзяне”, “мідзійцы”, “мёды”, “меды”, “мёзы”. Антычныя аўтары называюць меотаў і сіндаў роднаснымі народамі, што зблізкае іх са скіфамі і аб’ядноўвае агульнасцю індаарыйскага паходжання. Гэта пацвярджаецца і генетычнымі даследаваннямі: парэшткі ў магілах скіфаў паказваюць абсалютную перавагу гаплагрупы R1a. Зазначым, што ў беларусаў таксама пераважае гэта гаплагрупа.

Па меркаванні навукоўцаў, найбольш старажытная дзяржава меотаў-медаў існавала ў Пярэдняй Азіі ў закаўказскай вобласці Шубрыя (пазней – Ісаўрыя). Гэта ва ўсходняй частцы паўвострава Малая Азія. Называлася тая краіна Мідзія або Медзія.

Пазней гэты народ сустракаецца на берагах Чорнага мора. Так, Аполоній Радоскі (II ст. да н. э.), спасылаючыся на больш старажытныя крыніцы, пісаў: “Геланік у сачыненні “Пра народы” сведчыць, што "Калі праплывеш Баспор, будут сінды, а вышэй іх – меота-скіфы”. Племя пад назвай “мёды” пражывала ў стэпах на поўнач ад Чорнага мора, але пазней яно, верагодна, перасялілася на захад на тэрыторыю Фракіі, дзе і асела, увайшоўшы ў саюз фракійскіх плямён. Там яны заснавалі сваю “краіну медаў”, якая размяшчалася ў сярэднім цячэнні ракі Стрымон (Струміцы). Яе тэрыторыю ўтваралі дзве даволі шырокія (да 80 км) даліны, акружаныя горнымі хрыбтамі вышынёй да 2000 метраў. Адкрыты быў толькі заходні бок на крайнім поўдні, адкуль можна было патрапіць у даліны праз рэчышча ракі. Землі на

раўнінах былі ўрадлівыя, на схіле гор рос лес, на вяршынях распасціраліся пашы. Вось такі райскі куточак.

Аднак рост магутнасці Македоніі прывёў да таго, што краіна патрапіла ў залежнаць ад суседный дзяржавы. Жыццё, трэба думаць, моцна ўскладнілася, што і выклікала ў 340 г. да н. э. паўстанне медаў, пра што паведамлялі ў сваіх запісах многія гісторыкі. У той час ўладар Македоніі Пiлiп II вёў вайну ў раёне Перынфа і Візантыі, а яго сыну Аляксандру, які застаўся дома, было толькі 17 гадоў. Але юны кіраўнік дзейнічаў рашуча, хутка сабраў войска і нечакана напаў на медаў. У выніку гэтага збройнага чыну паўстанцкія атрады былі разбітыя, а сталіца, якая, верагодна знаходзілася каля сучаснага балгарскага горада Мелнік у раёне рэк Струмы і Струміцы, захоплена. Па звестках гісторыкаў, пераможца выгнаў з горада медаў, засяліў яго перасяленцамі і назваў Аляксандропаль. Гэта была першая перамога Аляксандра Македонскага.

З таго часу меды зніклі з поля зроку антычных аўтараў. Былі пагалоўна знішчаны? Асіміляваны? Ці ўсё ж пакінулі з вялікай крыўды сваю райскую мясціну і рушылі шукаць спакайнейшага жыцця ў паўночна-усходніх краях? Магчыма, ня ўсе і не адразу, але яны, напэўна, гэта зрабілі. Чаму выбралі нашу зямлю? Ды, пэўна, таму, што яна ў ва многім падобная да іх радзімы. І тут ёсць глыбокія даліны, даволі высокія і стромкія ўзгоркі, густыя лясы, мядовыя паляны…

А ці можна знайсці яшчэ якія доказы таго, што меды сапраўды аселі на нашай зямлі? Ці ёсць у той “краіне медаў” назвы з коранем “мед-“, “мяд-“? На карце Балгарыі знаходзім Медкавец, Мендова, Мядзені-Паляні, Меднікарава, Медзен-Кладзенец, Медава, Медвен, Мятохія, Медавец, Медавене. А зараз перанясёмся на Мядзельшчыну. Цякуць у яе заходняй частцы рэкі Страча і Струна. Па назвах яны як блізкая радня балгарскім Струме і Струміцы.

Паглядзім уважлівей і на назву Мядзел. Калі “мяд-“ пайшло ад наймення народа, то што ж такое “ел”? Верагоднае тлумачэнне гэтай часткі тапоніма можна знайсці ў марыйцаў – народа, які насяляе цяпер сярэдняе Паволжжа. Параўнальна нядаўна яны змянілі назву сваёй Марыйскай аўтаномнай рэспублікі ў складзе Расійскай Федерацыі на “Марый Эл”, дзе “Марый” – этнас марыйцы, а “Эл” – краіна. Ці не магло і найменне Мядзел мець падобную структурную будову і аналагічнае значэнне: Мядзь-Эл – краіна мядзі (медаў)? Улічваючы вялікую адлегласць паміж Беларуссю і Паволжжам, гэта версія гучыць даволі фантастычна, але мае шанц на пэўныя доказы, хай сабе і не дужа аргументаваныя.

Марыйцы, народ фіна-вугорскі, у глыбокай старажытнасці рассяляўся на тэрыторыі нашмат бальшай па памерах за цяперашнюю. Ёсць звесткі, што яны жылі раней на Маскоўскіх, Наўгародскіх, Смаленскіх землях. Магчыма былі марыйцы і на тэрыторыі Беларусі. Называлі іх у старажытнасці чарамісамі. На Мядзельшчыне і Пастаўшчыне сустракаем назвы Чарэмшыцы, Чаромушнікі Падзісенныя і Пагарныя. Можа быць, гэта проста супадзенне і іх паходжанне можна звязаць з раслінамі чарамшой і чаромухай, але не будзем адхіляць і этнанімічныя крыніцы назвы. І як інфармацыя для разважанняў радок з гістарычнага дакумента: "Буртасы же, черемисы, вяда и мордва бортничали на князя великого Володимера".

Але калі, нават, і не чарамісы-мары далі назву нашай тутэйшай краіне медаў, гэта маглі зрабіць іншыя фіна-вугорскія народы, якія жылі побач, напрыклад, лотва. Варта зазначыць, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя на тэрыторыі Літвы існавала воласць пад назвай Медзінкгоны.

У 1844 годзе Джон Дональдсан, абапіраючыся на антычныя і сярэднявечныя крыніцы, пісаў: "Сарматы і Саўраматы – старажытнае Склавонскае племя, якое адназначна называлася "нашчадкамі Медаў" як Дзіядарусам, так і Плініем, чыё імя ў роднаснай літоўскай мове азначае "паўночныя Меды або Matieni" і якія, пад крыху зменёнай назвай Syrmatae, жылі побач з Індам."

Цалкам магчыма, што этнонім мог быць утвораны ад імя правадыра-важдзя. Так, паводле грэчаскіх паданняў, тэрыторыяй Македоніі і Фрыгіі (Малая Азія) кіраваў легендарны цар Мідас, імя якога потым часта паўтаралася сярод кіраўнікоў гэтых краін. Шматлікія старажытныя аўтары звалі Мідаса прыёмным сынам фрыгійскага цара Гардзея. Цікавая інфармацыя падаецца ў артыкуле Вікіпедыі, паводле якой Мёд (ці Медэй) - персанаж старажытнагрэчаскай міфалогіі, сын Эгея і Медэі. Быў выгнаны з Афін з маці, перасяліўся да колхаў. Атрымаў перамогі над шматлікімі варварамі, а заваяваную краіну назваў Медзіяй. Загінуў, здзяйсняючы паход супраць індаў. Заснаваў горад Медзію і царства Медаў.

У фракійцаў было даволі распаўсюджанае імя з асновай "мед". Так у генеалагічным дрэве караля адрысаў Тэраса сустракаем Медокаса і Медзістаса. Вельмі верагодна, што імя Вялікага князя літоўскага Міндоўга мае непасрэдную сувязь з фракійскімі найменнямі. У некаторых публікацыях сустракаецца форма Медоўг, што вельмі набліжае гэту гістарычную асобу да медаў.

Асобнае адгалінаванне назваў з асновай "мед" утвараюць найменні, утвораныя ад слова "мядзьведзь", этымалогія якога і да сённяшняга дня канчаткова не высветлена. Большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што назва гэтага звера

ўтворана ад двух асноў "мёд" і "ведаць", што дазваляе яе асэнсаваць як "той, які ведае мёд". Лічыцца, што ў славянскіх народаў мядзьведзь быў татэмнай жывёлай і таму яго сапраўдная назва замяшчалася на апісальную або ўскосную: "той, хто есць мёд", "мішка", "касалапы", "гаспадар лесу" і таму падобныя. Паводле гэтых навукоўцаў, першапачатковае імя звера не захавалася, а індаеўрапейская назва мядзведзя была набліжана да лацінскага ursus. У шэрагу славянскіх моў найменне жывёлы дадаткова скажона перастаноўкамі складоў і заменамі літар: украінскае *ведмідь*, польскае *niedźwiedź*, чэшскія medvěd і nedvěd. У беларускай мове разам з афіцыйным "мядзьведзь" сустракаецца даволі часта народнае "вядзьмедзь".

Германскую назву мядзведзя, якая ў нямецкай мове гучыць *Bär*, а ў англійскай bear, выводзяць ад *прагерманскага* beron – "буры". Ад гэтага кораня ўтворана і назва мядзвежага логава – бярлога. У балтыйскіх мовах назва гэтага звера гучыць інакш: літоўскае lokys, латышскае *lācis*, прускае clokis. Існуе меркаванне, што на Русі першапачаткова мядзведзя называлі "*орктос*" (ад грэчаскага *арктос*) ці "*бер*", а яго сучаснае агульнаславянскае найменне з'явілася пазней. І ўсё ж, чаму мядзьведзь?

У звязку з версіяй пра рассяленне медаў у заходняй Беларусі можна выказаць думку пра тое, што і назва звера нейкім чынам звязана з этнонімам. Верагодна драпежны гаспадар лесу сапраўды быў татэмнай жывёлай у медаў, ахоўнікам і пакравіцелем народа, захавальнікам усіх адметных рысаў, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Ён быў увасабленнем сакральных ведаў, якімі валодала племя. Адсюль і магчымая інтэрпрэтацыя слова "медвед"-"мядзьведзь" - "вядун медаў", "знаўца глыбінных таямніц". Таму і прозвішчы Мядзьведзь, Мядзьведзеў некаторыя людзі атрымалі не толькі з прычыны падабенства з татэмным зверам у некаторых сваіх якасцях (целасклад, рысы характару, манеры размовы), але і па валоданні сакральнымі ведамі. Верагодна, большасць з іх была жрацамі – ведзьмакамі і ведзьмамі.

Звернем увагу на тое, што шэраг назваў заходняй Беларусі, якія на першы погляд утварыліся ад слова "мядзьведзь", усё ж такі, відаць, маюць іншы словаўтваральны механізм. Напрыклад, Мядзвёдкі, Мядзведскія, Мядзвінавічы, Малая Медвядка, Мядзведзічы. Глыбокая духоўная повязь народаў з вобразам гаспадара лесу выявілася ў вялікай колькасці гербаў і сімвалаў, якія сустракаюцца ў гэральдыцы. Адметна тое, што гэты драпежнік намаляваны на гербе Жамойціі і ўжо згаданай рэспублікі Марый Эл. Але самае цікавае тое, што гэты сімвал выяўлены і ў Мядзеле. Археолагі ў час раскопак на Нова-Мядзельскім замку знайшлі ўнікальную кафлю з выявай ці то жанчыны, ці то мужчыны з доўгімі валасамі на кані, якая (ці які) мячом пагражае мядзведзю. Даследчыкі мяркуюць, што гэта

выява магла быць гербам Мядзела (а ён павінен быў мець свой герб, аб чым сведчыць і наданне гораду магдэбургскага права Жыгімонтам І Старым па просьбе ягонай жонкі Боны Сфорца).

Узнікае пытанне, чаму назва татэмнага звера аднаго з фракійскіх плямёнаў стала агульнаславянскай? Можна выказаць меркаванне, што адбылося гэта дзякуючы дзейнасці знакамітых братоў-асветнікаў Кірылы (Канстаціна) і Мяфодзія (Міхаіла), якія стварылі славянскую азбуку і пераклалі на яе з грэчаскай мовы біблейскія тэксты. Жылі яны як раз у мясцовасці, дзе раней размяшчалася "краіна медаў": паўночная Македонія, Панонія, заходняя Балгарыя. Можна меркаваць, што яны і ўвялі ва ўжытак праз царкоўнаславянскую мову назву "мядзьведзь". Ад кніжнікаў і святароў яна перайшла да простага люду ў скажэннях і варыяцыях, якія мы заўважаем у розных славянскіх мовах.

Такім чынам, вылучаная гіпотэза і разгледжаныя факты і супадзенні дазваляюць выказаць меркаванне пра тое, што ў генезісе беларускай нацыі разам з магчымымі іншымі этнасамі ўдзельнічалі і фракійскія народы, у прыватнасці, меды. Але гэта версія для доказу сваёй праўдападобнасці патрабуе больш дэталёвых даследаванняў і грунтоўных аргументаў.

**Igor Prakapovich: Mjadzel - a new version of the name origin**

***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.17-25)***

The article deals with new original hypothesis of geographical names formation in the territory of the north-western Belarus and eastern Lithuania with the basics of "copper/medz", "mjad-" (Mjadzel, Mjadzelka and the like). The author connects their origin to the name of the people "honeys/medy", which in the days of Aleksandr Makedonski lived in the valleys of the rivers Struma and Strumnitsy in the south-western part of present-day Bulgaria. To escape from the pressure of more powerful neighbors, the people "medy" (or part thereof) moved into the territory of modern Belarus. As evidence the author presents historical facts and clear toponymic parallels that create a fertile ground for further research in line with the selected hypothesis.

**Вадзім Шышко: Узаемазалежнасьць існаваньня беларускай культуры і нацыянальнай самасьвядомасьці. Роля краязнаўства ў іх фарміраваньні**

*Даклад на навукова-практычным семінары "Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (Паставы, 20-21 красавіка 2017 г.)*

У артыкуле разглядаецца небясьпека культурнай уніфікацыі, якую нясе з сабой глабалізацыя. Указваецца важнасьць для ўсяго чалавецтва захаваньня культурнай разнастайнасьці ў цэлым, а значыць і беларускай культуры ў прыватнасьці. Праводзіцца аналіз сучаснага стану беларускай культуры і асабліва беларускай мовы. Паказваецца ўзаемасувязь існаваньня беларускай культуры і нацыянальнай самасьвядомасьці, а таксама гісторыя разьвіцьця беларускай нацыянальнай самасьвядомасьці і яе стан на сёньняшні дзень. На аснове практычнага досьведу прапануецца методыка па выхаваньні нацыянальнай самасьвядомасьці ў вучняў школ з дапамогай выкладаньня краязнаўства.

***

У апошнія дзесяцігоддзі ў сьвеце ўсё часьцей узьнімаецца пытаньне глабалізацыі. Прычым стаўленьне да яе вельмі неадназначнае. Калі ў сферы навукі і тэхналогій глабалізацыя з’яўляецца магутным каталізатарам у іх разьвіцьці па ўсёй планеце, то ў сферы культуры працэс глабалізацыі мае даволі супярэчлівы характар. З аднаго баку інфармацыйныя тэхналогіі дазваляюць хутка распаўсюджваць па ўсім сьвеце існуючыя і ствараемыя на лакальным узроўні культурныя каштоўнасьці і ўзоры. Але з іншага – пад уздзеяньнем камерцыялізацыі некаторыя асобныя ўзоры культуры атрымліваюць істотную перавагу над іншымі і з часам займаюць іх месца, ператвараючы ўнікальную лакальную культуру ў копію той камерцыйна пасьпяховай, якая прыйшла звонку.

Узьнікае пытаньне: з’яўляецца гэты працэс сусьветнай культурнай уніфікацыі станоўчым ці адмоўным для разьвіцьця ўсяго чалавецтва ў цэлым? У якасьці прыклада можна прывесьці аналогію з біяразнастайнасьцю, якая разглядаецца як фактар працяглага існаваньня усяго жывога на зямлі. Абапіраючыся на гэта можна меркаваць, што культурная разнастайнасьць з'яўляецца жыцьцёва важнай для працяглага існаваньня чалавецтва, і што захаваньне самабытных культур можа быць гэтаксама важным для разьвіцьця чалавечай цывілізацыі ў цэлым, як і захаваньне разнастайных біялагічных відаў стымулюе разьвіцьцё ў цэлым усёй экасістэмы.

Абапіраючыся на такую аналогію з біяразнастайнасьцю нам лягчэй зразумець менавіта тую небясьпеку глабалізацыі культуры, якая вядзе да яе ўніфікацыі і нясе ў сабе рызыкі не толькі для канкрэтнай асобы, але і для ўсяго грамадства ў цэлым. Справа ў тым, што этнакультурная разнастайнасьць у сьвеце выконвае шмат жыцьцёва важных функцый. Сацыяльная гісторыя сьведчыць, што розныя этнасы арыентуюцца на розныя падыходы да рашэньня праблем, якія ўзнікаюць перад імі. Так, у адной культуры можа быць больш разьвітым навуковы падыход да жыцьця, у другой – фінансавы, у трэцяй – палітычны, у чацьвёртай – рэлігійны і г.д.

Больш набліжаны да жыцьця прыклад перавагі культурнай разнастайнасьці прыводзіцца ў сумесным кітайска-амерыканскім навуковым дасьледаваньні “Акадэмічная свабода ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы і ў Злучаных Штатах Амерыкі”. Паводле высновы гэтай працы нельга адназначна заявіць, якая з дзьвюх названых сістэм адукацыі лепш, таму што кожная культура мае свае перавагі і характэрныя рысы. Але ў выніку тыя студэнты, якія вучацца за мяжой, пры той ўмове, што яны спалучаюць у сваім разьвіцьці пазітыўныя аспекты дзьвюх розных культур, знаходзяцца ў канкурэнтнай переваже ў адносінах да іншых студэнтаў. Такім чынам з улікам цяперашняга працэсу глабалізацыі эканомікі, людзі, якія ўвабралі у сябе досьвед розных культур, у сучасным сьвеце больш канкурэнтаздольныя.

Але, для таго, каб сучасны чалавек змог увабраць у сябе досьвед розных культур, у першую чаргу на планеце павінна існаваць сама наяўнасьць гэтых самых розных культур. Так як ніхто не можа прадказаць ход гісторыі, ніхто не ведае, якія здольнасьці і якасьці спатрэбяцца чалавецтву для выжываньня ў блізкай і аддаленай будучыні. Таму чалавечая цывілізацыя павінна мець у запасе багаты арсенал уласьцівасьцяў, кожнае з якіх можа спатрэбіцца для адэкватнага адказу на выклікі гісторыі – сацыяльнай і натуральнай. Вось чаму трэба клапаціцца аб тым, каб культурнае узаемадзеяньне прыводзіла не да асерадненьня, т. б. да разбурэньня спецыфічнай этнічнай карціны свету, а да захаваньня яго культурнай стракатасьці, у калейдаскопе якой беларуская культура мае поўнае права заняць сваё месца.

Разуменьне важнасьці захаваньня нацыянальных культур паступова даходзіць да ўсёй сусьветнай супольнасьці. Сьведчаньнем гэтага можа служыць цэлы шэраг міжнародных пагадненьняў. У прыватнасьці:

- усеагульная дэкларацыя аб культурнай разнастайнасьці, прынятая ЮНЕСКА і ухваленая 185 краінамі-удзельніцамі ў 2001 годзе;

- канвенцыя ЮНЕСКА аб абароне і заахвочваньні разнастайнасьці формаў культурнага самавыяўленьня, прынятая 20 кастрычніка 2005 года;
- канвенцыя аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, ратыфікаваная 20 чэрвеня 2007 года 78 краінамі.

Праз гэты пералік выразна бачна, што захаваньне і разьвіцьцё нашай беларускай культуры – гэта не капрыз нейкай нявызначанай групы беларускага насельніцтва, а цалкам лагічны і на міжнародным заканадаўчым узроўні абгрунтаваны кірунак, у якім рухаецца ўсё чалавецтва.

Наступнае пытаньне заключаецца ў тым, на якім узроўні сёньня знаходзіцца наша беларуская культура, які арэал яна займае ў геаграфічнай прасторы і аб’ёме беларускага соцыюма. У дадзеным выпадку пад беларускай культурай мы маем на ўвазе не толькі тое “фасаднае” фальклорнае сялянскае мастацтва, якое адразу ўзгадваецца пры словах “беларуская культура”, але ўвесь той культурны комплекс, які пастаянна аточвае нас штодзень. Гэта ў першую чаргу мова, творы не толькі народнай творчасьці, але і прафесійнага мастацтва, навуковая не толькі гуманітарная, але і натуразнаўчая літаратура, нормы маралі, кадыфікаванае права, вайсковая і праваахоўная сферы, адукацыя (у першую чаргу вышэйшая), прамысловасьць, гандаль, банкаўская сфера, бюракратычны апарат і г.д.

Калі разглядаць усе гэтыя аспекты беларускай культуры паасобку, то выразна заўважна, што пад магутным ціскам адначасова і вэстэрнізацыі, і русіфікацыі адбываецца настолькі істотная асіміляцыя звонку, што ўжо можна казаць аб пагрозе існаваньня нашай культуры менавіта як беларускай.

У першую чаргу гэта датычыцца, безумоўна, беларускай мовы. Яшчэ ў 2006 г. прэзідэнт Расейскай Федэрацыі У.У. Пуцін вельмі дакладна вызначыў, што такі феномен глабальнага маштабу як “рускі сьвет” стварае не толькі руская культура ў цэлым, але і рускае слова ў прыватнасьці. Гэты яго выраз будзе цалкам справядліва прымяніць і да любой іншай культуры і мовы. Менавіта мова з’яўляецца самым універсальным і эфектыўным кодам для расшыфроўкі і распаўсюджваньня той, або іншай культуры, што, у сваю чаргу, аўтаматычна дазваляе пашыраць арэал распаўсюджваньня і адпаведнага культурнага “сьвету”. Такім чынам, калі мы прасочым за тымі сферамі грамадскага жыцьця ў Беларусі і іх геаграфічным распаўсюджваньнем, дзе актыўна выкарыстоўваецца беларуская мова, то зможам канстатаваць той факт, што наш “беларускі сьвет” распаўсюджваецца толькі на:

- час навучальнага працэсу ў нешматлікіх школах з беларускамоўным навучаньнем;
- лічаныя радыё і тэлеканалы, або толькі асобныя праграмы на іх;

- некаторую колькасьць перыядычных або іншых друкаваных выданьняў;
- некаторыя масавыя мерапрыемствы.

І ўсё. Увесь астатні жыцьцёвы сусьвет жыхара Беларусі аточвае не беларускі, а іншы культурны “сьвет”.

У такіх умовах казаць аб разьвіцьці і пашырэньні беларускай культуры проста няма сэнсу. Або мы ствараем поле дзейнасьці для беларускай культуры, у першую чаргу за кошт пашырэньня выкарыстаньня беларускай мовы ва ўсіх сферах дзейнасьці нашага грамадства, а не толькі ў традыцыйна асобна ўзятых. Або мы проста займаемся іншымі справамі і дазваляем пасьлядоўна зьнікнуць і беларускай мове, і беларускай культуры. Таму што без актыўных канкрэтных дзеяньняў пустое дэклараваньне аб патрымцы і разьвіцьці беларускай мовы і культуры выглядае, мякка кажучы, недарэчна. Для прыкладу можам зьвярнуць увагу на нашы суседнія краіны, дзе колькасьць людзей, якія выкарыстоўваюць родную мову ў штодзённым жыцьці, за апошнія 20 гадоў вырасла прыкладна на 10%. У той час як у Беларусі гэтая лічба наадварот зьнізілася на 20%, з 50% да 30%.

Пакуль што, на сёньняшні час, з сучасным станам беларускай мовы і культуры можна канстатаваць той факт, што “беларускага сьвету” амаль што не існуе. У сваю чаргу адсутнасьць “беларускага сьвету” вядзе да паступовага размываньня і зьнікненьня беларускай нацыянальнай самасьвядомасьці.

А гэта ўжо даволі небясьпечны для беларускай супольнасьці працэс, бо ён азначае страту людзьмі ўсьведамленьня сваёй прыналежнасьці да пэўнай сацыяльна-этнічнай супольнасьці і яго становішча ў сістэме грамадскіх адносін. У такой сітуацыі рызыка для беларускай культуры заключаецца ў тым, што нацыянальная самасьвядомасьць з'яўляецца найважнейшай складовай часткай і асновай нацыянальнай сьвядомасьці ў цэлым, якая, у сваю чаргу, існуе не толькі на ўзроўні індывіда, але і над асобай, у тым ліку ў аб'ектываваных масавых формах грамадскай сьвядомасьці – гэта значыць у той жа самай мове, у творах народнай творчасьці і прафесійнага мастацтва, навуковай літаратуры, нормах маралі і права і г.д. Іншымі словамі – у культуры нацыі. А гэта азначае, што беларуская культура і нацыянальная самасьвядомасьць вельмі шчыльна паміж сабой зьвязаныя. Разьвіцьцё аднаго аўтаматычна цягне за сабой разьвіцьцё другога. І наадварот.

Інтэнсіўнасьць праявы нацыянальнай самасьвядомасьці ў асобных прадстаўнікоў этнічнай супольнасьці далёка не аднолькавая. Часткова або цалкам ёй не валодаюць дзеці. У дарослых членаў этнасу, як правіла, яна аслаблена ў тых выпадках, калі яны не маюць кантактаў з прадстаўнікамі іншых этнічных

супольнасьцяў. У такім становішчы часьцей за ўсё аказваюцца сельскія жыхары, у якіх можа пераважаць лакальная або рэгіянальная самасьвядомасьць. Магчыма, у гэтым і заключаецца адна з многіх прычын, чаму нацыянальная самасвядомасць беларусаў пачала афармляцца адносна позна ў параўнаньні з іншымі еўрапейскімі народамі.

Першыя яе праявы можна назіраць толькі ў канцы 19 - пачатку 20 стст., што было абумоўлена ўзмацненьнем нацыянальна-вызваленчага руху і актывізацыяй нацыянальна-культурнага жыцьця, што сьведчыла аб пачатку фарміраваньня беларускай нацыі. Спачатку больш высокі ўзровень нацыянальнай самасьвядомасьці быў уласьцівы прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі і шляхце. Сярод сялянства, якое складала большасьць беларускага грамадства, пераважала, як мы ўжо ведаем, лакальная, а не агульнанацыянальная сьвядомасьць (той самы феномен “тутэйшых”).

Аднак у 1920-я гады нацыянальная самасьвядомасьць даволі прыкметна вырасла сярод прадстаўнікоў усіх сацыяльных катэгорый насельніцтва Беларусі. Гэта было зьвязана з ажыцьцяўленьнем палітыкі беларусізацыі, якая заключалася, у першую чаргу, у распаўсюджваньні беларускай мовы ва ўсіх без выключэньня сферах грамадскага жыцьця, а не толькі ў некаторых асобна ўзятых, як мы назіраем гэта сёньня. Але ў наступныя дзесяцігоддзі развіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці было запаволена ў выніку ўзмацненьня працэсаў асіміляцыі і дэнацыяналізацыі беларускага грамадства.

Узьдзеяньне гэтых працэсаў па інэрцыі працягваецца і па сёньняшні дзень. Па гэтай прычыне можна меркаваць, што фарміраваньне беларускай самасьвядомасьці, як і беларускай нацыі ўвогуле, яшчэ не скончылася. На адсутнасьць сярод беларускага насельніцтва нацыянальнай самасьвядомасьці ўказвае шэраг фактараў, такіх як:

- амаль паўсюднае некарыстаньне і няведаньне беларускай мовы, прычым сярод школьнікаў часам заўважаецца ўжо нават яе неразуменьне;
- дрэнная арыентацыя і няведаньне сваіх нацыянальных гістарычных вытокаў;
- размытая нацыянальная самаідэнтыфікацыя, якая назіраецца ў размовах з замежнікамі, або ў размовах паміж сабой у кантэксьце параўнаньня беларусаў з жыхарамі іншых краін, калі беларусы падсьвядома ідэнтыфікуюць сябе з іншай нацыяй (накшталт: “немцы такія, а вось мы, рускія, іншыя…”).

Наяўнасьць толькі якога-небудзь аднаго такога негатыўнага фактара яшчэ можна было б ураўнаважыць адсутнасьцю двух іншых. Але ў нашым выпадку яны

прысутнічаюць усе разам у комплексе. А гэта стварае рэальную пагрозу, што працэс фарміраваньня беларускай нацыі можа так і не завяршыцца, у адрозьненьне ад усіх нашых суседзяў і іншых этнасаў.

Якімі могуць быць наступствы адсутнасьці ў беларусаў нацыянальнай самасьвядомасьці? Гістарычны досьвед ужо мае яскравы прыклад пачатку 20 ст., калі большасьць насельніцтва Беларусі складалі сяляне амаль цалкам пазбаўленыя ўсьведамленьня нейкай сваёй нацыянальнай еднасьці і адметнасьці. У выніку, калі беларуская інтэлігенцыя, выкарыстоўваючы момант распаду Расейскай імперыі, паспрабавала адрадзіць беларускую дзяржаўнасьць, то з боку сялян збольшага была праяўлена абыякавасьць да гэтага працэсу. А тая дзяржаўнасьць, што мы ўрэшце атрымалі, па сутнасьці была нададзена нам урадам суседняй краіны і на яе тэрыторыі, што мела ў будучым свае адпаведныя для нас наступствы.

Калі мы не хочам наступіць на тыя ж самыя гістарычныя “граблі” яшчэ раз, мы абавязаны зрабіць для сябе правільныя высновы. А менавіта: завяршыць распачатае сто гадоў таму фарміраваньне беларускай нацыі з дапамогай стварэньня ў беларускага насельніцтва нацыянальнай самасьвядомасьці. Два сродкі для выкананьня гэтай задачы – мова і гісторыя – нам добра вядомы і дастаткова распрацаваны для іх актыўнага выкарыстаньня. Справа засталася толькі за зусім малым: пачаць іх, нарэшце, выкарыстоўваць. Але ў якасьці дадатковага і таксама эфектыўнага сродка можна яшчэ выкарыстаць такі нераспрацаваны ў нас рэсурс як краязнаўства.

Падчас працы ў школе аўтарам было заўважана, што дзеці больш жыва ўспрымаюць і лепш разумеюць той гістарычны матэрыял, які тым ці іншым чынам зьвязаны з той мясцовасьцю, у якой ён выкладаецца. Акрамя непасрэдна дыдактычных мэтаў пры выкладаньня гісторыі з дапамогай такой краязнаўчай прывязкі дасягаецца яшчэ адна, не менш важная мэта. Спазнаючы агульнабеларускую гісторыю праз тыя яе эпізоды, якія прывязаны да канкрэтна таго месца, дзе нарадзіўся і вырас той чалавек, які яе вывучае, ён самым непасрэдным чынам адчувае сваю сувязь з той падзеяй праз наступны лагічны ланцужок: “чалавек – продкі чалавека – лакальная гістарычная падзея, з якой зьвязаны продкі чалавека – агульнабеларуская гістарычная падзея, у межах якой адбылася тая лакальная падзея, з якой зьвязаны продкі дадзенага чалавека”. У якасьці прыклада можна прывесьці распрацаваны Ігарам Пракаповічам навучальны курс краязнаўства па Пастаўскаму раёну, які выкладаецца сёньня ў раённых школах.

Зразумела, што мовай выкладаньня такога прадмета без усякіх абмеркаваньняў павінна быць толькі адна: беларуская. Вядома, у гісторыі Беларусі былі такія перыяды, калі часова адзінай дзяржаўнай мовай станавілася то польская, то расейская. Але гістарычна на нашай зямлі з'явілася і разьвілася да свайго сучаснага стану толькі адна беларуская мова, а гэта азначае, што толькі яна адна будзе як найлепш пасаваць для захаваньня і далейшага разьвіцьця беларускай культуры і этнасу.

У перспектыве выкарыстаньне такой схемы прывязкі ўсіх асобна ўзятых жыхароў Беларусі да агульнабеларускай гісторыі праз краязнаўства дазволіць стварыць у іх адчуваньне еднасьці паміж сабой праз усьведамленьне датычнасьці кожнага з нас паасобку да нашай агульнай гісторыі, мовы, тэрыторыі, культуры. Іншымі словамі, у людзей пачне нараджацца нацыянальная самасьвядомасьць, а гэта самы надзейны гарант захаваньня беларускага народа, краіны і дзяржаўнасьці.

**Vadim Szyszko: Interdependence of the Existence of the Belarusian Culture and National Identity. The Role of Local History in their Formation**
***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.26-32)***

The article deals with the danger of cultural unification posed by globalization. It is emphasized the importance for all humankind of preserving cultural diversity in general and, therefore, the Belarusian culture in particular. The analysis of the current state of the Belarusian culture and especially of the Belarusian language is conducted. It is demonstrated the interrelationship between the Belarusian culture and national identity. It is shown the history of development of the Belarusian national identity and its state today. On the basis of practical experience the author offers a method of raising of national consciousness among students in schools with the help of local history teaching.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №18, чэрвень 2017 ISSN 2291-4757*

**Ігар Пракаповіч: Школьніцтва на Пастаўшчыне ў пасляваенны час**

*Пракаповіч Ігар Міхайлавіч, настаўнік геаграфіі вышэйшай катэгорыі ДУА "Пастаўская гімназія".*

Летам 1944 года Пастаўшчына была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а ўвосень пачаліся заняткі ў школах. Якім ён быў, той першы пасляваенны вучэбны год? Цікавыя звесткі пра тагачаснае школьніцтва ў нашым краі знаходзяцца ў Глыбоцкім занальным архіве. Там захоўваюцца справаздачы загадчыка аддзела народнай адукацыі Ставіцкага за 1 красавіка 1945 года і больш позні час, у якіх падаецца даволі падрабязная характарыстыка навучальнага працэсу за першыя тры чвэрці пасляваеннага года. Варта зазначыць, што на той час Пастаўскі раён меў меншыя памеры, чым зараз: у яго склад не ўваходзіла ўсходняя частка – Варапаеўшчына.

На пачатак навучальнага года ў раёне налічвалася 77 школ: 72 пачатковыя, 4 няпоўныя сярэднія і адна сярэдняя. У іх займалася 5570 вучняў. На канец III чвэрці колькасць школ павялічылася на 5, а вучняў – больш, чым на 200 чалавек.

У пасляваенны час шкаляроў навучалі 152 настаўнікі, сярод якіх з вышэйшай адукацыяй было толькі 5, з незакончанай вышэйшай – 13, з сярэдняй педагагічнай – 64, з агульнай сярэдняй – 12, з незакончанай сярэдняй – 59. Значную частку педагагічных кадраў складалі выхадцы з усходніх раёнаў Беларусі і з Расіі. Але настаўнікаў у школах не хапала. Сітуацыя ўскладнялася тым, што паводле дамовы паміж БССР і Польшчай палякі мелі магчымасць выехаць з Пастаўшчыны на этнічную радзіму. На выезд у Польшчу запісалася 11 настаўнікаў, з якіх на 1 чэрвеня 1945 года выехала 9 чалавек.

Нізкі ўзровень кваліфікацыі значнай часткі педагагічных кадраў спрабавалі павысіць шляхам залічэння ўсіх настаўнікаў, якія не мелі закончанай сярэдняй адукацыі (59 чал.) на завочнае аддзяленне Пастаўскага педагагічнага вучылішча. Але недахоп падручнікаў стрымліваў працэс навучання.

На тэрыторыі раёна былі арганізаваны таксама так званыя "нядзельныя" школы ў Паставах, Лынтупах, Камаях, Пятрагах, дзе настаўнікі мелі магчымасць павышаць свае веды па рускай і беларускай мовах, а таксама вывучалі "книгу тов. Сталина "Великая Отечественная война Советского народа" и краткий курс ВКП(б)".

Штат раённага аддзела народнай адукацыі складаўся на той час з 4 чалавек: загадчык райана, загадчык педкабінета і два школьныя інспектары. Акрамя іх дапамогу ў арганізацыі навучальнага працэсу аказвалі 15 грамадскіх інспектараў з ліку найбольш вопытных настаўнікаў; дзейнічала 12 метадычных аб'яднанняў.

З 82 школ толькі 38 знаходзілася ў дзяржаўных будынках, астатнія – у прыстасаваных гаспадарчых кватэрах. На канец года з пустых хат і з хат, якія засталіся пасля выехаўшых у Польшчу, было падабрана пад школы яшчэ 18 будынкаў. Ва ўсіх школах не хапала падручнікаў, але ўсім навучальным установам і настаўнікам былі выдзелены прышкольныя ўчасткі і агароды.

Санітарны стан устаноў адукацыі ацэньваўся як здавальняючы, за выключэннем тых школ, якія размяшчаліся ў гаспадарскіх дамах. З прычыны тыфу вясной была зачынена на каранцін Навасёлкаўская школа.

Паспяховасць вучняў па раёне за першую чвэрць дасягала 81,7 %. Былі праведзены дзве мастацкія ("художественные") алімпіяды: раённая і міжраённая. Першыя месцы занялі дзіцячы дом у Паставах, руская НСШ, педвучылішча і сярэдняя школа. У Пастаўскім дзіцячым доме знаходзілася 82 хлопчыкі і дзяўчынкі, у планах значылася адкрыццё дзіцячага дома на 300 чалавек.

Развівалася і сетка асветных устаноў. Было адчынена 19 хат-чытальняў, у якіх мелася па 250-300 кніг, што недастаткова. Гарадская бібліятэка таксама не магла пахваліцца вялікім кнігазборам: яе паліцы змяшчалі 600-700 экзэмпляраў друкаваных выданняў.

У вельмі складаным становішчы знаходзіліся ў той час настаўнікі. Як паведамляў загадчык райана Ставіцкі, "учителя ничего не получают за исключением хлеба, несмотря на то, что каждый учитель имеет на руках промтоварные и другие карточки. Даже на протяжении 3-х месяцев учителя ни грамма не получили соли. Прошу облоно уделить внимание в отношении снабжения учителей». ..

*Крыніца: Занальны дзяржаўны архіў г. Глыбокае. Отдел образования Поставского районного исполнительного комитета, г. Поставы Витебской области. Ф. 1200, 500 ед.хр., 1944-1999 гг.*

**Igar Prakapovich: Schools and education in Pastavy region after World War II**
***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.33-34)***

The information on the status of schools and education in Pastavy region after World War II is presented.

**БІНІМ на Кангрэсе Федэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук Канады**

З 27 мая па 2 чэрвеня 2017 года ў Райерсон універсітэце ў Таронта (**Ryerson University**, Toronto, Ontario) праходзіў 86-ты штогодны кангрэс Федэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук Канады. На Кангрэсе вынікі сваёй апрацы прадстаўлялі звыш 8000 даследчыкаў, аб'яднаных у больш чым 70 навуковых асацыяцый. Па традыцыі ў Кангрэсе прынялі ўдзел сябры Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ). Даследчыкі з БІНІМу ўваходзяць у Канадыйскую асацыяцыю славістаў (КАС). Асацыяцыя аб'ядноўвае навукоўцаў, што займаюцца вывучэннем славянскай гісторыі, мовы, палітыкі, культуры і літаратуры (балканскія краіны, Беларусь, Польшча, Расія, Украіна і інш.).

У першы дзень, 27 мая 2017 года, на трох сесіях адбыліся паседжанні на 15 тэматычных секцыях, тры з якіх былі поўнасцю беларускімі. Вялікая заслуга ў састаўленні праграмы беларускіх секцый, а таксама ў іх арганізацыі належыць праф. З. Гімпелевіч, дырэктару БІНІМ. На ранішнім і вячэрнім паседжаннях былі заслуханы па тры навуковыя даклады, а напрыканцы дня сябры БІНІМу правялі за круглым сталом з беларуска-канадыйскімі паэтамі. Кожнае паседжанне доўжылася па дзве гадзіны, час для выступаў быў вызначаны ў 20 мінут і заставалася яшчэ добрая магчымасць для дыскусій. Можна выказаць шчырую падзяку ўсім беларусам, прыехаўшым на кангрэс з Аттавы, Бэрі, Ватэрлоо, Кінкердайна, Таронта, за іх высілкі ў падрыхтоўцы дакладаў і непасрэдны ўдзел у паседжаннях.




Удзельнікі паседжанняў *(злева направа):*
першы рад – З. Гімпелевіч, В. Іпатава, І. Сурвілла, Г. Туміловіч, Ю. Шамецька;
другі рад – П. Мурзёнак, Н. Баркар, С. Панізьнік, Я. Федзюшын, Ю. Рапецкі.

На ранішнім паседжанні свае даклады прадставілі сп. Юрась Рапецкі “Пратэстантызм на беларускай зямлі”, канд. навук Галіна Туміловіч “ Беларусь ад Вялікага княства літоўскага да глабалізацыі: якую спадчыну мы возьмем з сабой?”, праф. Зіна Гімпелевіч “Рыгор Барадулін (1935-2014): *Толькі б яўрэі былі! Кніга павагі і сяброўства* (2011)”.

На вячэрнім паседжанні выступілі: сп. Івонка Сурвілла, зачытаўшая даклад сваёй дачкі праф. Марыі Сурвілла, якая не змагла прыехаць на кангрэс, «Сталасць памяці і фарміраванне ідэнтычнасці: міграцыя і Айчына ў беларускім досведзе”, доктар Пётра Мурзёнак “Усходнеславянская беларуска-украінская цывілізацыя”, і канд. навук Наталія Баркар “Актыўнасць часопіса “Культура, Нацыя” ў 2013-2017гг.”.

Даклады прадстаўляліся на англійскай ці беларускай мовах. Відавочна, што тэматыка дакладаў была беларускай і выклікала зацікаўленыя пытанні і дыскусію сярод удзельнікаў. Наведаўшы на наступны дзень паседжанні на іншых секцыях і параўнаўшы іх з беларускімі, магу з упэўненасцю сказаць, што даклады нашых даследчыкаў былі выкананы на высокім акадэмічным узроўні.

Заключную працу ў гэты дзень даследчыкі з БІНІМу праводзілі не ў акадэмічнай, а ў эмацыйнай атмасферы. Сеўшы кругам яны слухалі вершы і расказы аб творчасці беларускіх паэтаў – Вольгі Іпатавай, Сяргея Панізьніка, Пятра Мурзёнка, Юрася Шамецькі.




З паэтычнай старонкі кангрэса:
Ю. Шамецька, В. Іпатава, С. Панізьнік, П. Мурзёнак

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №18, чэрвень 2017* *ISSN 2291-4757*

Увесь дзень на кангрэсе прайшоў у прыўзнятай і творчай атмасферы. Сваім удзелам на такім прадстаўнічым навуковым форме, якім з'яўляецца кангрэс Канадыйскай федэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук, даследчыкі з БІНІМу надалей сцвярджаюць унікальную самабытнасць беларускага народа, яго права на нацыянальнае развіццё і далейшае існаванне ў найноўшы гістарычны перыяд.

Пётра Мурзёнак

**BINIM participates in the Congress of the Canadian Federation for Humanities and Social Sciences (*by P. Murzionak*)**
**(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.35-37)**

From May 27 to June 2, 2017 in Toronto (Ontario), the 86th Congress of the Canadian Federation for Humanities and Social Sciences was held. By tradition, the Congress was attended by members of the Belarusian Institute of Science and Arts in Canada (BINIM) who are a part of the Canadian Association of Slavists (CAS). On the first day, May 27, 2017, three sessions were held at the meeting with 15 thematic sections, three of which have been completely Belarusians. In the morning and evening sessions were delivered by three scientific reports directly related to the life of the Belarusian nation. At the end of the day BINIM members held a round table with the Belarusian-Canadian poets.

**George Repetski: Protestantism on Belarusian Soil**

Пратэстантызм упершыню зьявіўся на беларускай зямлі амаль 600 гадоў таму назад у асобе Гэраніма Пражскага. Амаль 100 гадоў пазьней вучні Жана Кальвіна адведалі Беларусь і там жа з дапамогай знакамітых сем'яў беларускай шляхты пачалі распаўсюджваць пратэстанцкія ідэі і вучэньне. Зьявіліся пратэстанцкія супольнасьці, якія пабудавалі сабе малітоўныя дамы, у шматлікіх месцах Беларусі. Гэта ўсё адбывалася ў межах Вялікага Княства Літоўскага, што і паспрыяла рэлігійнай талерантнасьці ды паўплывала на палітычнае і эканамічнае разьвіцьцё ВКЛа. Пад уплывам Контар-рэфармацыі многія зь беларускай шляхты зь цягам часу перайшлі да каталіцызму, асабліва пры стварэньні Рэчы Паспалітай, калі аб'ядноўваліся ў адну судружнасьць дзьве дзяржавы Польскага і Літоўскага Княстваў. Пратэстанты другім разам зьявіліся на беларускіх землях у дзевятнаццатым стагодзьдзі ды прыйшлі з розных крыніц. Пры Савецкім Саюзе большасьць пратэстантаў былі жорстка рэпрэсаваныя і толькі па распадзе гэтай дзяржавы яны атрымалі поўны дазвол на існаваньне і дзейнасьць у межах сёньняшняй Беларусі.

Has Protestantism played any significant role in the history of Belarus? To answer that question, we have to go back to the time prior to the Reformation which, as is generally accepted, began in 1517. However, we know that from March to May of 1413, almost 100 years prior to the Reformation, Jerome of Prague, upon invitation by Grand Duke Vitaut of the Grand Duchy of Litva (GDL), came to preach a simplified form of Biblical Christianity. During the course of his visit in these parts he was reported to have visited the cities of Vitebsk and Vilnius, possibly, Polatsak and other cities. Jerome of Prague was a personal friend of the Czech reformer, Jan Hus, and both of them were condemned as heretics by the Roman Catholic Council in Constance in 1415. This led to their execution which angered many Czechs and prompted them to send a delegation to GDL’s Grand Duke Vitaut to ask and invite him to become King of the Czech nation and support church reforms which Jan Hus and Jerome of Prague had proposed. Vitaut accepted their offer and in 1422 sent off an army of 5,000 men, under the leadership of his commanding officer, Sigismund Korybut, to assist the Czechs in realizing their hopes for reforms. Seven years later soldiers from GDL’s army returned to their homeland having been acquainted and greatly affected by Hussite ideas of the need for reforms. This laid the groundwork for reformists’ ideas throughout GDL, particularly among the country’s nobility.

Hussite influence hovered over GDL's nobility for many years to follow; the intellectual centres for Hussite ideas were found in the universities of Prague and Krakow. It is noteworthy that Franciszak Skaryna, who came from GDL's city of Polatsak, studied at Krakow University. He showed up in Prague in 1517 and established a printing facility there. He printed his first edition of the Psalms in Belarusian, then continued to produce translations of 22 books of the Bible into literary Belarusian of that time. He was influenced by the Reformation in understanding that the Bible should be translated into the language of the people, so that it becomes understandable and applicable to its readers. The Reformation started by Luther greatly influenced the Belarusian Chancellor Mikalaj the Black Radzivil and in 1553 he laid foundation to Protestant churches in Brest, Vilnius and Niazvizh.

The Reformation Movement quickly spread among GDL's magnates and nobility and soon included some well-known Belarusian families as adherents and supporters of this new faith. During the second half of the 16th century some 300 Protestant Reformed churches quickly appeared throughout GDL. In 1553 Mikalaj the Black Radzivil established a printing press in Brest that produced 40 titles related to Protestant faith. For example, in 1562 he printed the book "Catechism" in Belarusian and the booklet "Justification of Sinful Man Before God;" both were written by Simon Budny, a well-known supporter of the Reformation. This was followed by the printing of the Brest Polish Bible in 1563. This served as a standard Bible for Protestant Christians throughout the Polish-GDL Commonwealth for many years. Worthy of mention here is Budny's friend, Vasil Tsiapinski, who also established a printing press and produced materials in Belarusian including his own translation of the New Testament Gospels.

Following the death of Mikalaj the Black Radzivil Protestants divided into two groups: the Calvinists and Arians (Arians denied Jesus' equal status with God the Father). By 1570 another Radzivil, Mikalaj Radzivil Rudy, brought about an agreement between Lutherans and Calvinists in GDL by which they conducted religious work together, both adhering to the Sandomir Confession. This included Czech Reformed groups. Each denomination could continue to hold onto their particular doctrines but at the same time find ways to work together in disseminating Christian teaching and instruction. Calvinist churches accepted the Heidelburg Catechism (1563) and Second Helvetic Confession (1562). One individual from GDL who wrote extensively on Christian doctrines and terminology from the view of Protestant thought was Andrey Volyan. He wrote in Latin, thus his works were not available to Belarusian masses, but he did express teaching that was going on in the newly formed Reformed churches.

The Reformation led to positive social changes which some historians have termed as the Golden Age of Belarus's history. During the 16th century many cities came into being,

almost 400 reaching town or city status. Grand Duke Sigismund II Augustus (1569-1572) allowed the creation of local governing parliaments which set the stage for greater self-government of localities but also led to the system of sending representatives to a central state parliament. Protestants played a key role in the creation of the Second and Third versions of GDL's Statutes that came out in 1566 and 1588. With the building of Protestant church edifices came also the building of hospitals and elementary schools.

The Protestant dominance within the nobility did not last for long as an over-arching trend within GDL because of the Counter-Reformation that took over motivating many within the nobility to eventually change to Catholicism. Protestants with time began losing their positions of influence within the cooperative Commonwealth of the Polish Kingdom and GDL. A symbolic victory for people supporting the Counter-Reformation was the Union of Brest that was worked out in 1595 and 1596 between consenting Orthodox groups and the Catholic Church. It was a union of the two confessions which gave recognition to the Pope as leader. One important feature from a Belarusian point of view was the Uniates' use of the Belarusian language. Those Orthodox who did not enter nor support the Brest Union within the Polish-GDL Commonwealth suddenly started to seek support from the Protestants. The Radzivil Family stood for religious liberty of all religious groups which did not agree to enter the Brest Accord. As Protestantism continued to lose influence on society as a whole its most prominent activities remained in and around the city of Slutsk where in 1617 the educational Gymnasium, under Calvinistic influence, was established and for many years served as educator of prominent Belarusians. It existed for approximately 300 years and produced Belarusian scientists, researchers, civilian and religious activists. It is interesting to note that the 1863 Uprising against Russian domination in the Slutsk area was led largely by former students from this school. It harbored the idea of a Belarusian identity even so late as the 19$^{th}$ century. Once the 1863 Uprising was put down the Slutsk Gymnasium was converted into a classical Russian school.

The 17$^{th}$ and 18$^{th}$ centuries came to be a time of gradual decline for the Polish-GDL Commonwealth. The Belarusian language lost all official state status (the Statutes of GDL were originally in literary Belarusian of that time) for it had been replaced by Polish as the official state language. Battles were fought with neighbors, particularly with Moskoviya. Over time the Polish-GDL Commonwealth lost territory to its enemies with the final death of the state in 1795 due to the partition of its remaining territories by Austria, Prussia and the emerging Russian Empire. Protestants were persecuted more and more and it came to the state of affairs that by 1668 it was officially forbidden for any Catholic to convert to any other form of Protestantism. In 1717 members of the Protestant nobility were barred from occupying any civil positions, also from conducting public

religious meetings and opening new churches. By 1767 under Prussia's and Russia's insistence the Polish-GDL Commonwealth was forced to renew some semblance of religious freedom that had been guaranteed by GDL's Third Statute, but by this time there were only 40 recognizable Protestant churches within GDL's borders. In spite of the decline of Protestant churches following the break-up of the Polish-GDL Commonwealth, Protestant groups did continue to exist and function in what is today's Belarus. By the middle of the 19th century, for example, we find Lutheran and Calvinistic churches in some major cities and villages.

On the whole, however, there were few Protestant churches and groups with Orthodoxy and Catholicism being the prominent ones. This was generally true throughout the 19th century and only towards the end of the 19th century do we see the reemergence of Protestantism on Belarusian soil but this time in a somewhat different form. One major contributing factor was the printing of the Russian Bible in the common vernacular which took place in 1876. This served as a catalyst to several Christian Protestant movements that broke out in various parts of the Russian Empire, today's Belarus included. Towards the end of the 19th and into the beginning of the 20th century we also observe a revival of Belarusian nationalism with stress on past history of GDL, the role of the Belarusian language and the nation's culture.

The Evangelical Christian-Baptist movement began to have inroads in Belarus from various sources. First, there was the growing influence of the so-called Shtundists from Ukraine. Ukrainian peasants were hired by German farmers and introduced to religious "hourlies" (from the word "Stunde") during which time German ministers preached from the Bible and encouraged personal study resulting in Ukrainians peasants being converted to a Protestant faith. Belarusians had contacts with relatives and friends in Ukraine, they visited them and came back with this new "Shtundist" ideas. Another source was the Evangelical Christian Movement that had broken out among the higher class elite in St. Petersburg. They sent out missionaries to various parts of Russia, Belarus and Ukraine leading to the founding of new congregations. Baptists from the Baltics and Poland were instrumental in starting congregations in key cities of today's Belarus. The first known Baptist group on Belarusian territory appeared in 1866 in the village of Uts in Homel District followed by other major Belarusian cities such as Polatsk, Vitsebsk, Pruzhany and Miensk. New congregations began appearing in other cities and many villages. By 1910 over 200 Protestant evangelical churches existed throughout Belarus. Protestants united into several separate unions of churches.

One particularly notable Baptist congregation appeared in Brest in 1921 under the leadership of Lukash Dziekuts-Malej that with time grew to be the largest Protestant congregation of that time. Diekuts-Malej saw the need to provide the Scriptures in common Belarusian. He worked with representatives of the British and Foreign Bible Society and with the well-known Belarusian activist Anton Lutskevich to produce the New Testament and Psalms in Belarusian which was first printed in 1931.

We recall World War I and its political fallout. Of particular interest to us here is the fact that, following the signing of the Treaty of Brest-Litovsk on March 3, 1918, Belarusian nationalists from many ethnic Belarusian parts that had been under the control of the German National Army organized themselves and met in Minsk to form their own governing parliament and leading council. On the 25th of March they declared the existence and functioning of the Belarusian National Republic with its seat in Minsk. Their control of the area lasted for a short time only and by January 5, 1919 it had been replaced by the Communist Government that declared Belarus to be a part of the Soviet Union and termed the state as the Belarusian Soviet Socialist Republic (BSSR).

Following the end of the Polish-Soviet War Poland received in 1921 control of Western Belarus. This partition between Poland and the USSR greatly affected how Protestant churches developed within each side. Protestants in western Belarus enjoyed relative freedom to evangelize and start new churches while the Communist authorities in the BSSR began closing one congregation after another. Their leaders were arrested and sent off to labor camps in distant eastern points of the Russian Empire. Most of them did not return home.

Then came World War II. Once Germany attacked Poland in September of 1939 the Soviet Union annexed western Belarus, enjoining it to BSSR. In typical Soviet style churches were being forced to close down and its leaders repressed. Suddenly in June of 1941 Germany attacked the USSR sweeping quickly across Belarus. This saved some religious leaders from repression and allowed them to seek and receive permission from German authorities to continue their religious work. Many Belarusians converted to a Protestant form of Christianity during the occupation.

Once Soviet forces drove the Germans out of Belarus those Protestants leaders who remained were again persecuted by Soviet authorities and only in the 1970's and 1980's many were officially rehabilitated. One interesting moment came in 1944 when key Protestant leaders were brought from prisons and labor camps to Moscow to create a union of Protestant groups into one All-Union Council of Evangelical Christians-Baptists. These leaders were sent to their home communities to reopen churches that had been closed earlier. This was done to receive support from Protestants in driving out the

Germans from occupied parts of the Soviet Union. While churches were again allowed to open and function in Belarus, it was only in major cities and towns, not nearing the number of congregations that had existed before.

The Department for Religious Affairs controlled who was chosen as leaders and kept a close watch on the churches' tendency to convert non-believers. This came to a head in 1962 when the All-Union Council of Evangelical Christians-Baptists, under pressure from the Soviet Government sent out the "Instructive Letter to Senior Ministers" curtailing evangelistic efforts, especially among youth. A significant sector of believers did not agree to accept the terms laid out in the Instructive Letter and created their own union of unregistered churches. A new wave of persecution rolled over this group of believers. This brought about condemnation from world governments and leaders and already by the 1970's the level of repression started to soften.

By the mid-1970's and beyond new congregations were allowed to be formed and be registered. In 1976 Belarusian Christians of the Evangelical Faith (i.e. Pentecostals) were allowed to leave the All-Union Council and form their own central church structure. Today the Pentecostal Union of Churches is the largest Protestant group in Belarus. Following the breakup of the Soviet Union and Belarus's declaration of independence on the 27$^{th}$ of July, 1990 the Belarusian Government stopped controlling church structures. The early 1990's saw the massive wave of opening many new Protestant churches throughout Belarus that included greater printing and distribution of Bibles and Christian literature, even the appearance of seminaries.

While there has been some return of control over the growth and expansion of Protestant churches since then, adherents do sense greater freedom than during Soviet times. Those churches that do exist and function within Belarus's present laws on religious activities continue to do so largely without Government interference, although in 1999 Belarusian authorities began terminating rental facilities to Protestant churches. In 2002 a new law came into effect under the title of "Freedom of Conscience and Religious Organizations," resulting in a notable negative reaction on the part of Protestant leaders. Major Protestant groups that operate today within Belarus's borders are: Evangelical Christian-Baptists, Pentecostals, Seventh Day Adventists and a more recent addition - the so-called "Charismatics." It is estimated that of all Christian groups in Belarus Protestants make up from 25 to 30%. In the 2012 Census the following figures of registered churches or parishes were reported: Orthodox – 1567, Protestant – 1025, Catholic 479.

**Bibliography:**

Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць, Зборнік матэрыялаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 7 снежня 2013 г.), "Пазітыў-цэнтр", 2014

Станіслаў Акіньчыц, "Залаты век Беларусі", Издательство «Новы взгляд», Хабаровск, 1998

"Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі," рэдкал.: А.У. Унучак (гал. рэд.), Алтэрнатыва, Брэст, 2011

"Катэхіс", Помнік беларускай Рэфармацыі XVI стагодзьдзя, рэдакцыйная калегія, навуковы рэдактар – Н. Кабелка, Юніпак, Мінск, 2005

S. N. Savinskiy, "An Abridged History of the Russian-Ukrainian Baptist Faith: An Educational Resource," Cherkasy, Smirna, 2013

Уладзімір Арлоў і Зьміцер Герасімовіч, "Краіна Беларусь: Вялікае Княства Літоўскае", Kalligram, 2012

Uladzimir Arlou, Zmicier Hierasimovic, "This Country Called Belarus," Killigram, 2013

**George Repetski: Protestantism on Belarusian Soil**
***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.38-44)***

Protestantism was introduced in Belarus almost 600 years ago in the face of Jerome of Prague. Almost 100 years later, the disciples of Jean Kalvin visited Belarus and with the help of well-known families of the Belarusian nobility began to spread Protestant ideas and teachings. Protestant communities were organized which built houses of worship in many places of Belarus. This all happened within the Grand Duchy of Lithuania (GDL), which contributed to the religious tolerance and to the impact on the political and economic development of the GDL. Influenced by the Counter-Reformation, many of the Belarusian nobility over time moved to Catholicism, especially when creating the Commonwealth, when united in one two states of the Poland and the GDL. Protestants for a second time appeared in the Belarusian lands in the nineteenth century, and they came from different sources. When the Soviet Union, most Protestants were severely repressed and only on the decay of the state they have received full authorization for the existence and activities of today's Belarus.

**M. Paula Survilla: The Persistence of Memory and Formation of Identity - Migration and the Homeland in Belarusian Experience**

In 1931, Spanish surrealist Salvador Dali produced the collage entitled "The Persistence of Memory." Rendered using oil on canvas, it is a well-recognized example of the genre, and a well-known image in Western-centric popular culture. His unexpected juxtapositions and manipulations of recognizable objects is as much a useful aspect of this work as the image it communicates. I am sure many in this room recognize the work and have personal opinions about the meaning of the image, whether you have seen the original, or have seen the image on one of the varied and at times bizarre objects on which it is found in the marketplace.[1] Considered a commentary about time and the lack of permanence of the human condition, the melting clocks also lend themselves to other interpretations.



Figure 1: Salvador Dali's The Persistence of Memory (1931)

An image such as this is a good place to begin an exploration of topics that are by their nature subjective and personal, and at the same time linked to recognition and ideas of collective belonging. Memory and identity are intimately intertwined. They are tied to our life experiences and our relationships with others. Our world-views are especially guided by our memories of events, traumas, achievements, of loss and of love, and the significance and resonance of those moments. Memory and identity also exist as elements of persuasion, as recognized components of cultural and social change, of political constructions and power, and of cultural framing. In my discipline, these aspects generate

[1] Not only is this image found on a myriad of objects in our current material culture, but the fascination with the image and its implications is evidenced in its use by many diverse scholars and disciplines as a reference point in their discourse (neurology, psychology, engineering to name a few). The image at once invites collective and highly individualized interpretations.

discourse about culture, political change, and adaptations to a changing local and global landscape. The list is not a passive one. Whether we are members of a diaspora or not, identities and cultural constructions are in constant flux as environments and social and cultural politics continually change. The most obvious locations are linked to our personal lives, the place of migration, and the relevance of the homeland in our world-views.

In my experience as a scholar of things Belarusian and as a first generation Belarusian, being Belarusian has required the negotiation of memory, experience, and identity in constant relationship with homeland and with migrant spaces. It has also meant recognizing the presence of collective memories and identities – as agreed upon and performed by Belarusian communities for their own membership as well as somewhat differently for outsiders. As a child frequenting the Belarusian community in Toronto, as an invited member of the dance troupe Vasilok during my time in graduate school, and as doctoral researcher living first in Bielastoccyna and then in Miensk, the multiple community perceptions of identity that I encountered complemented or contrasted with the nature of my own personal experience and Belarusian world view. Similarities are an easy aspect of these experiences, but the challenge as a cultural scholar was, and remains, to reconcile that my tool kit of memories, of assumptions, and of identity was unique … and that it was my job and my challenge to understand and to respect what I did not recognize. What has become evident is that there is no "one" way to be Belarusian since the personal components of identity are defined by private and singular journeys. What can be identified are the more resonant themes that have and continue to play a role in defining memory and identity for a Belarusianess, potentially informed by perceptions of homeland and community life in the Diaspora.[2]

As many of us are aware, geographical separation from a "homeland" as a perceived cultural "core" in no way diminishes its presence in the manifestation of our personal identities (whether our perception is positive or negative). It is in the intersection between our personal identities and a sense of contribution to a collective presence and community life that a "persistence of memory" can become a foundation for that life. It can also become the site of negotiation for how a group sees itself, how the members engage in community, and our relationship to our communities in the context of a broader global space.

[2] Agunias, Dovelyn Rannveig, and Kathleen Newland. Developing a Road Map for Engaging Diasporas in Development: A Handbook for Policymakers and Practitioners in Home and Host Countries. Geneva, Switzerland: IOM/MPI, 2012: 2)

**Piotra Murzionak: The place of Eastern Slavic Belarusian-Ukrainian civilization among other civilizations**

***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.82-91)***

Along with the evidence for the existence of a distinct Eastern Slavic Belarusian-Ukrainian Civilization its place among other civilizations is discussed. Most of civilization classifications assign Belarus and Ukraine to Orthodox or Eurasian/Russian or Eastern civilization – different name of the same civilization. But that is a moot point. In our opinion, Belarus, and Ukraine together form a distinctive Eastern European Slavic civilization and as a sub-civilization belongs to the Western, but not to the Eurasian civilization. We have a number of arguments to support this statement including historical, ethnic, religion, and mentality aspects, and commonality with Western civilization. We believe that the Slavs who migrated to Eastern Europe in the fifth to ninth centuries, for various reasons, formed later two civilizations – Eastern Slavic (Belarusian-Ukrainian) and Eurasian.

*Літаратура*

**Ігар Пракаповіч: Верш. Апавяданьне “Лясны брат”.**

***

Пагавары са мной на мове,

На нашай роднай, не чужой.

Адчуеш ты – у кожным слове

Душа яднаецца з душой.

І сэрца сэрцу адкрывае

Свае духоўныя сады –

Там салаўіны хор спявае,

Там смак крынічнае вады.

Там рэха продкаў прамаўляе

Малітвы светлыя здалёк,

Нібыта нас благаслаўляе

На добры шлях, на лёгкі крок.

У словах тых – надзеі нашы,

І нашы мары пра жыццё.

Калі мы з мовай – нас не страшыць

Ні гвалт, ні мор, ні забыццё.

...Пагавары са мной на мове,

Забудзь на час пра “языкі”.

Няхай гучаць у кожным слове

І продкі нашы, і вякі!

**Ігар Пракаповіч: Лясны брат**

Было тое даўно, адразу пасля вайны. Прыехаў у нашу вёску фінагент людзей на пазычку падпісваць, ці то мо падаткі збіраць – зараз ужо дакладна і не прыпомню. А вёска пры лесе, пры вялікай Варапаеўскай дачы, стаіць. А там, у тым лесе, лясныя браты хаваліся. Тыя партызаны, што супраць саветаў. Забілі яны некалькі агітатараў-камуністаў, таму агенты розныя да нас наведвацца пабойваліся. А вось гэты не забаяўся, хоць, пэўна ж, меў страх у сярэдзіне. Але віду не падаваў.

Дык вось, ідзе ён нашай вёскай: скуранка, капялюшык, сумачка пад пахаю. А насустрач яму – стары Падгайскі. Яму тады гадоў пад семдзесят было: высокі, цыбаты, у даўгім паношаным польскім плашчы, падперазаны салдацкім рэменем з кукардай, у добра-такі падраных ботах...

Вось яны сышліся, параўняліся. Павіталіся. Агент прыкінуў, што стары – чалавек бясшкодны, лаўтух, ды і пачаў яго ўгаворваць падпісацца на пазыку.

Падгайскі стаяў, слухаў, моршчыў твар (звычка ў яго такая была), а потым паволі пачаў рукой адхінаць левае крысо свайго даўгога плашча. Агент заўважыў гэты рух, зірнуў і – адразу анямеў. Рука старога Падгайскага гэтак жа павольна расшпільвала раменьчык пісталетнай кабуры, якая вісела на пасе пад плашчом.

Нямая сцэна доўжылася імгненне. Агент кінуў на зямлю сваю сумачку, развярнуўся ды што было моцы кінуўся бегчы.

З-пад ног разлятаўся то жвір, то гразь з лужын. Ён бег задыхаючыся, баючыся азірнуцца, у напружаным чаканні стрэлу за спіной. Але ніхто не страляў ды і не гнаўся за ім.

- Гэй, каго ты спалохаўся? – пачуўся ззаду голас старога. – Я ж толькі прыкурыць хацеў.

Агент спыніўся. Азірнуўся.

Стары Падгайскі дастаў з кабуры люльку, набіў яе табакай, і, смачна закурыўшы, пусціў у паветра духмяныя кольцы дыму...

**Igar Prakapovich: Poem. Short story “The forest Brother”**
***(Abstract, magazine “CULTURE, NATION”, June 2017, issue 18, pp.92-93)***
The poem and short story by I. Prakapovich are published.

*Інтэрв'ю*

*Часопіс "Культура, Нацыя" зьмяшчае поўны тэкст інтэрв'ю сп. Ю. Рапецкага, якое ён даў часопісу "Крыніца жыцьця", дзе яно будзе надрукавана ў скарочаным выглядзе.*

**Пісьмо ад Ю. Рапецкага ад 5 мая 2017 года**

Надоечы атрымаў апытальнік ад рэдактара часопісу, што выдаецца Саюзам цэркваў эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў у Беларусі. Часопіс выходзіць 6 разоў у год і называецца "Крыніца жыцьця". Хоць назва беларуская, 99 адсоткаў матэрыялаў у часопісе расейскамоўныя. Час ад часу нешта зьяўвіцца на беларускай мове, але гэта даволі рэдка. Напэўна з тае прычыны, што ў гэтым годзе сьвяткуецца 500-годзьде выданьня скарынавай Бібліі ў беларускім перакладзе, нашыя субраты па веры таксама рашылі нешта напісаць пра гэта і пра сучасныя беларускія пераклады Бібліі. З тае прычыны, што я прыняў удзел у выданьні Новага Запавету з Псальмамі і цэлай Бібліі ў беларускім перакладзе Сёмухі, рэдактар прыслаў мне апытальнік, у якім ставіць мне пытаньні пра мой удзел у гэтым праекце і іншых справах. Я выслаў яму файл, які далучаю да гэтага і-мейла, з тою надзеяю, што вы таксама магчыма і зацікавіцеся маімі адказамі. З таго часу рэдактар прыслаў мне адрэдагаваны тэкст, які прыйшоў ў скарочаным выглядзе, але я высылаю вам мой першы тэкст. Думаецца, што той скарочаны тэкст рэдактар зьмесьціць у будучым выпуску КЖ. Спадзяюся, што мае адказы запоўняць невядомую вам інфармацыю пра мяне і маю жыцьцёвую працу на беларускай мове. Усяго найлепшага вам! ЮР

**Пытанні да Юрыя Рапецкага**

***Як Вы хочаце, каб мы пісалі Ваша імя і прозвішча?***

Афіцыйна па германскай метрыцы: Georg Repecki; па-расейску – Репецкий Георгий Яковлевич; па-беларуску (і тарашкевіцай) – Юры Рапецкі, наркамаўкай – "Юрый" Рапецкі. Самая любімую мне форма як па-беларуску. Па-ангельску пішацца George Repetski. (Каб чыста па-беларуску, то імя "Юрка" – падобна да "Янкі" Купалы, напрыклад – калісьці лічылася зусім нарматыўным для ўзраслага мужчыны, але нажаль пад уплывам расейцаў і расейскай мовы гэта цяпер лічыцца дзіцячай формай, таму мне найлепш падабаецца імя Юры. Для мяне імя Георгій не славянскага паходжаньня, таму мне лепш гучыць і падабаецца форма "Юры").

***Калі і дзе нарадзіліся?***

Нарадзіўся 1-га сакавіка 1946 году ў горадзе Ганновер, Нямеччына.

***Дзе і калі вучыліся?***

Я прайшоў канадзкую адукацыю, што значыць, 8 класаў ніжэйшай школы (па-ангельску: elementaryschool) і 4 гады сярэдняй (па-ангельску: highschool). Потым вучыўся 4 гады ў Саскачаванскім унівэрсытэце (University of Saskatchewan) у горадзе Саскатун (Saskatoon). Рыхтаваўся стаць настаўнікам біялёгіі (што ня сталася), але таксама зацікавіўся курсамі па расейскай мове і літаратуры і Савецкім Саюзе; праслухаў і здаў экзамены па некалькіх курсах (таксама праслухаў адзін курс па ўкраінскай мове). Атрымаў Ступень бакалаўра. Затым перайшоў на вучобу да Альберцкага унівэрсытэту (University of Alberta) ў горадзе Эдмантан (Edmonton). Займаўся там жа 2 гады. Праслухаў некалькі курсаў і здаў экзамены па расейскай літаратуры ды напісаў дысэртацыю на ангельскай мове пад назваю “Changing Attitudes Towards the Peasantry in Russian Literature (as Reflected in the Works of Turgenev, Leskov, Uspenskii, Chekhov and Bunin)” (Перамена стаўленьня да сялянства ў расейскай літаратуры згодны з тым, як гэта паказана ў творах Тургенева, Ляскова, Успенскага, Чэхава і Буніна). Атрымаў Ступень магістра па расейскай літаратуры. У 1971 годзе мы з жонкай перабраліся ў Таронта і далучыліся да хрысьціянскай місіі Toronto Christian Mission, дзе я займаўся хрысьціянскай працай разам зь беларускім братам Гукам Іванам Каленікавічам, але ўпачатку мы зь ім працавалі і рыхтавалі эвангельскія матэрыялы толькі на расейскай мове. Будучы ў Таронце, я пазнаёміўся зь беларускім спадарствам Валянтынай і Міхалам Пашкевічамі. Спадарыня Валянтына Пашкевіч была настаўніцай беларускай мовы і напісала падручнік па беларускай мове (паводле тарашкевіцы). Я прайшоў ейны курс па беларускай мове згодна з падручнікам і тут жа пачаў пісаць і зачытваць беларускія казаньні.

***Калі прыйшлі да Бога і хрысціліся?***

Зь дзяцінства я чуў пра Бога, Хрыста, іншых біблійных персанажаў і хрысьціянскія дактрыны ад бацькоў, якія былі евангельскімі веруючымі. Гэта паклала аснову для мяне, каб думаць пра сваю патрэбу ў дараваньні грахоў і збаўленьні. Мне было дванаццаць гадоў, калі бацькі паслалі мяне з брацікам да летняга дзіцячага лягеру, што праводзілася царкоўнаю арганізацыяй, зьвязанай з той англамоўнай эвангельскай царквой, куды мы хлопцы зь сястрой хадзілі (бацькі працягвалі адведваць славянскія эвангельскія цэрквы). Падчас таго лягеру нас заклікалі да каяньня і ўвераваньня ды прыняцьця Ісуса Хрыста сваім асабістым Збаўцам і Госпадам-Уладаром. З дапамогай майго душаапекуна я пакаяўся і прыняў Хрыста. Два гады пазьней я прыняў воднае хрышчэньне па веры ў той англамоўнай царкве,

куды мы з братам і сястрой хадзілі.

***Калі ўступілі у брак?***

Мы з жонкай (яе завуць Люсіль) уступілі ў шлюбнае жыцьцё 28 жніўня 1968 году.

***Колькі у Вас ёсць дзяцей і унукаў?***

Бог даў нам двух хлапцоў. Старэйшы (Цімафей) нарадзіўся ў 1975 годзе, маладейшы (Іян) ў 1978 годзе. Яны абодва пажаніліся. У старэйшага трое дзяўчат, у маладзейшага двое сыноў і дочка.

***Дзе і калі працавалі?***

Увосені 1971 году па заканчэньні заняткаў у Альберцкім унівэрсытэце з Эдмантана мы перабраліся ў Таронта. Я далучыўся да Таронтаўскай Хрысьціянскай Місіі, жонка да мясцовага шпіталю, дзе ў інстытуце для падрыхтоўкі медсясьцёр выкладала і даглядала студэнтак-медсясьцёр. У той час наш сямейны сябар Іван Гук (беларус з Пінска) супрацоўнічаў з таронтаўскай місіяй і яны з дырэктарам запрасілі мяне далучыцца. У 1976 годзе тая місія перабралася ў ЗША, таму мы з братам Гукам і іншымі супрацоўнікамі, якія засталіся ў Таронце, заснавалі сваю місію пад назваю Глабальнае Місіянэрскае Радыёслужэньне, што пазьней перайменавалася на Глабальнае Місіянэрскае Служэньне. Я супрацоўнічаў з гэтай місіяй да канца лютага 2009 году. Абедзьве гэтыя місіі накіроўвалі духоўную службу народам, што знаходзіліся, як раней казалі, за "жалезнай заслонай".

***Якую пасаду займаеце зараз?***

Сёньня мы з жонкай зьяўляемся пэнсіянэрамі, хоць занятыя духоўнай працай. Служым ў канадыйскай царкве, куды мы ходзім. Я ў складзе царкоўнай рады старэйшынаў. Мы з жонкай адведваем людзей, зьвязаных з нашай царквой, чуем іхнія гісторыі, молімся зь імі і за іх, нават праводзім зь імі Вячэру Гасподнюю, калі яны ня могуць прыходзіць на набажэнствы. Жонка служыць у царкоўнай праграме для бязмужных жанчын, якія маюць дзяцей. Я працягваю пісаць духоўныя казаньні на беларускай мове, што высылаю Беларускай рэдакцыі Транс Сусьветнага Радыя ў Берасьці і рэдакцыі "Крыніцы жыцьця" ў Кобрыне. Мае вусныя казаньні кладуцца на вэбстаронку КЖ, таксама некаторыя кнігі. Зацікаўленыя могуць кампутарам пайсьці туды, каб праслухаць і прачытаць тыя матэрыялы.

***Калі ласка, Юры, коратка раскажыце калі ўпершыню Вы пазнаёміліся з Біблійй? Ці памятаеце у якой вокладцы яна была, ці былі там малюнкі, на якой мове яна была надрукавана?***

Першая Біблія, якую я ўбачыў, належала бацьку. Яна мела чорную вокладку,

зробленую з скуры. Ніякіх малюнкаў у ёй не было. Гэта была расейская Біблія. Памятаю, што тата чытаў зь яе нам і растлумачваў тыя рэчы, якія былі нам незразумелыя. Удома мы размаўлялі па-беларуску і некаторыя словы ў расейскай Бібліі былі незразумелыя нам. Пазьней толькі ён атрымаў беларускі Новы Запавет з Псальмамі, але ўжо ў той час мы дзеці адведвалі англамоўную царкву і самі чыталі ангельскія пераклады Бібліі. Першыя гады ў Канадзе мы пражылі на стэпе з тае прычыны, што тата працаваў на чыгунцы і мы жылі ў доме каля яе. У той час ня мелі ніякага аўтамабіля, таму ў нядзелю нікуды не адпраўляліся на багаслужбу. Тата з мамай праводзілі сямейную багаслужбу ў хаце. Чыталі ўрыўкі зь Бібліі, сьпявалі духоўныя песьні (у большасьці расейскія) і яны вучылі нас, як іх сьпяваць, ды маліліся ў нашай прысутнасьці. Толькі пазьней, калі тата знайшоў іншую працу ў горадзе Саскатун, мы перабраліся туды, і там жа я ўбачыў Біблію з малюнкамі для дзяцей, але гэта было на ангельскай мове. З дапамогай адной веруючай украінкай, якая жыла ў нашым мікраарёне, якая пазнаёмілася з нашай сям'ёй, мы дзеці пачалі хадзіць у канадыйскую англамоўную царкву. У мясцовай расейска-украінскай баптысцкай царкве, куды хадзілі бацькі, ніякай моладзі не было, таму бацькі папрасілі ўкраінскую сястру нас браць з сабой да англамоўнай царквы. Ужо там жа ў нядзельнай школе і на набажэнствах мы чыталі і чулі Слова Божае ў ангельскім перакладзе.

***Што менавіта Вы ўпершыню запамяталі з Бібліі?***

Будучы хлопчыкам, я запамятаў тыя расказы пра Абрагама, Язэпа і маладога Давіда, калі ён змагаўся і перамог над волатам Галіяфам. Тата ня толькі чытаў нам гэтыя гісторыі, але таксама паўторна сваімі словамі расказваў іх.

***Ці памятаеце калі у першы раз Вы прачыталі Біблію?***

Калі не памыляюся, я першы раз прачытаў усю Біблію, калі быў падлеткам. Я быў актыўны ў хрысьціянскім клюбе для хлопцаў і хадзіў на сустрэчы моладзі нашай царквы, дзе чуў параду старацца перачытваць усю Біблію. У тыя гады ўпершыню прачытаў усю Біблію

***Якую кнігу Бібліі Вы любілі у сваім юнацтве і чаму?***

У юнацтве мне найболей падабалася кніга Быцьцё з тае прычыны, што ўсе расказы былі мне зразумелыя і цікавыя, асабліва тое, што пісалася пра Язэпа і ягонае нязвыклае жыцьцё.

***На якой мове дома размаўлялі Вашыя бацькі і чаму?***

Удома бацькі размаўлялі з намі ў асноўным па-беларуску, хоць цяпер можа мы б казалі, што гаварылі "трасянкай", але нашая трасянка была бліжэй да беларускай,

чымся да расейскай. Мама вырасла ў вёсцы недалёка ад Моўчадзі, дзе людзі гаварылі пераважна па-беларуску, і ейнае вымаўленьне было чыстае цэнтральна-беларускае. Тата вырас у вёсцы недалёка ад Пінска і ён мог гаварыць тою паляшуцкай мовай, але ён пазьней пазнаёміўся зь літаратурнай беларускай мовай і перайшоў на яе, калі служыў духоўным працоўнікам да і падчас апошняй вайны ў Беларусі. Ужо ў сям'і ён ў асноўным размаўляў з намі па-беларуску. У нашым доме пераважала беларуская мова, такія словы прыкладам як: ізноў, сьлізка, рабіць, праца, цяжка (яўныя дзеканьне і цеканьне пераважалі ў вымаўленьні), шкадаваць, палохаць, псавацца і г. д. Бацька, памятаю, часта прыгадваў нам дзецям, што мы "беларусы", не расейцы або рускія. Павінен сказаць, што першая мова для мяне была беларуская, якая адрозьнівалася ад іншых славянскіх моваў. І я гэта заўважыў яшчэ ў маладосьці. Нават да сёньняшняга дня беларуская мова для мяне аказваецца самай прыгожай.

***Калі Вы пачалі сваю працу праз радыё і хто Вас паклікаў да гэтай працы?***

Калі я вучыўся ў Альберцкім унівэрсытэце ў горадзе Эдмантан, брат Іван Гук (добры сябра майго бацькі, калі яны зналі адзін аднаго ды юнакамі служылі ў Пінскай Царкве эвангельскіх хрысьціян ў 1920-ых гадох) супрацоўнічаў з Тарантаўскай Хрысьціянскай Місіяй. Ён ведаў, што вучоба для мяне закончыцца і я думаў аб тым, што рабіць далей. Ён напісаў мне ліст, у якім растлумачыў, што ён пагаварыў з дырэктарам ТХМ, Джынам Дуліным, і расказаў яму пра мяне. Яны шукалі маладзейшага супрацоўніка з веданьнем расейскай мовы і рашылі запрасіць мяне з жонкай адведаць іх і абмеркаваць пытаньне аб нашай магчымай супольнай працы зь імі. Мы паляцелі туды, сустрэліся з братам Гукам і дырэктарам місіі і пасьля размовы зь імі і малітвы прыйшлі да высновы, што я далучуся да іх і мы будзем разам супрацоўнічаць.

Брат Гук добра валодаў расейскай мовай і ў той час пісаў і зачытваў духоўныя казаньні на расейскай мове, якія запісваліся на электронныя стужкі ды высылаліся да радыёстанцыі як у Монтэ Карла, гэтаксама і да станцыі ў Філіпінах і ў Алясцы. Да таго ж, ён рэдагаваў часопіс "Хрысьціянін", які высылаўся нашым усходне-славянскім субратам і сёстрам па веры ў розных краінах. Я пачаў таксама пісаць казаньні на расейскай мове і даваў іх брату Гуку на праверку, потым час ад часу зачытваў для радыёпраграмы, якую нашая місія рыхтавала і высылала радыёстанцыям. Некалькі гадоў пазьней я пачаў рыхтаваць сваю праграму, што называлася "На крыльях размышлений", якую мы высылалі да Транс Сусьветнага Радыё ў Монтэ Карла. Апрача таго, пры канцы 1980-ых гадоў мы з татам пачалі беларускамоўную эвангельскую перадачу пад назваю "Добрая вестка". Праграму мы адпраўлялі да Транс Сусьветнага Радыё ў Монтэ Карла, што і вяшчалася больш

за 10 гадоў і накіроўвалася на Беларусь. Мы разам з татам пісалі і зачытвалі беларускія казаньні і дабаўлялі беларускія духоўныя песьні.

Адкрылася для мяне новая магчымасьць высылаць казаньні дырэктару праграмы “Для веруючых і няверуючых” ў 1990-ых гадох, што трывала 4 гады. Калі закрылася для мяне гэтая магчымасьць, я пачаў дзяліцца сваімі вуснымі казаньнямі зь беларускай рэдакцыяй Транс Сусьветнага Радыё ў Берасьці, што працяваю рабіць і да сёньняшняга дня. Яны карыстаюцца казаньнямі пры нагодзе, за што я вельмі ўдзячны ім. Таксама ўжо некалькі гадоў запар я высылаю свае вусныя казаньні рэдакцыі “Крыніцы жыцьця”, якая адкрыла для мяне вэбстаронку, куды ўкладаюць апошнія мае казаньні. Таксама там жа зьмясьцілі некаторыя літаратурныя матэрыялы, мною напісаныя. Той, хто хоча, можа пайсьці туды праз інтарнэт, каб або паслухаць казаньні, або прачытаць літаратуру, або нават тыя матэрыялы спампаваць на свой кампутар. Рэдкалегіям Транс Сусьветнага Радыё і “Крыніцы жыцьця” я вельмі ўдзячны за супрацоўніцтва.

***Мы ведаем, што Вы супрацоўнічалі з былым атэістам на беларускім радыё Юрыям Ермалюком. Чаму Вы вырашылі гэта зрабіць, ня гледзячы на тое, што ён шмат чаго дрэннага зрабіў для веруючых?***

У 1989 годзе мне пазваніў зь Беларусі ў Таронта брат Аляксандар Фірысюк і паведаміў, што дарога для мяне адкрытая, каб ізноў прыязджаць і адведваць беларускія цэрквы ЕХБ. Я паляцеў у Менск і мы з братам Іванам Букатым, старэйшым прасьвітарам Саюза цэркваў ЕХБ, адведалі некалькі цэркваў, дзе я выступаў па-беларуску. Дырэктар праграмы “Для веруючых і няверуючых” Юрый Ермалюк пачуў пра мяне, думаецца, цераз брата Букатага, і ён папрасіў інтэрвью у мяне, на што я згадзіўся. Спадар Ермалюк прыйшоў запісаць інтэрвью са мною ў менскім малітоўным доме, што сёньня называецца “Галгофа”. У хуткім часе пасьля таго, як я вярнуўся дадому, ён напісаў мне ліст, у якім растлумачыў, што двойчы пусьціў інтэрвью са мною і атрымаў некалькі лістоў ухваленьня. Ён даў мне прапанову, просячы, каб я рыхтаваў і высылаў яму штотыдзень 10-хвілінае духоўнае казаньне пра вучэньне Бібліі на беларускай мове з абяцаньнем, што будзе пускаць мае казаньні падчас сваёй радыёпраграмы. Тут жа ён дадаў: “Калі Бог існуе, то я хачу адплаціцца перад Ім і даць веруючым магчымасьць расказаць людзям пра сваю веру”. Напэўна новыя ўмовы грамадзтва перамянілі яго ў стаўленьні да веруючых. Пра тое, што ён шмат дрэннага зрабіў супроць веруючых я толькі пачуў пазьней. Адно, што стаяла перада мною, – магчымасьць выступаць перад беларусамі па галоўным радыёканале з Дабравесьцем Хрыстовым. І не шкадую, што так зрабіў. Ня раз падыходзілі людзі да мяне і казалі, што ўпершыню пачулі Дабравесьце Хрыстова, слухаючы праграму “Для веруючых і няверуючых”

пасьля таго, як дырэктар дапускаў мне і іншым чытаць біблійныя казаньні. Я ўспрыняў гэтую магчымасьць як дар, дадзены мне самім жа Богам.

***Колькі гадоў Вашы радыёказанні перадаваліся праз першы беларускі радыё канал?***

Калі я не памыляюся, мае беларускія біблійныя казаньні чуліся кожную суботу ў праграме “Для веруючых і няверуючых” з 1990 да 1994-га году.

***Як сталася так, што Вы сталі супрацоўнічаць з Васілём Сёмухай дзеля перакладу Біблii на беларускую мову?***

Аднаго дня (не памятаю дакладна самога ж году, але напэўна калісьці к канцу 1980-ых гадоў) пазваніў мне Уладыка Мікалай, мітрапаліт і сьвятар мясцовай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і паведаміў, што атрымаў ад знакамітага перакладчыка клясічнай літаратуры, Васіля Сёмухі, зь Менску машынапісны асобнік ягонага перакладу Новага Запавету і Кнігі псальмаў. Мікалай растлумачыў мне, што спадар Сёмуха шукае супрацоўнікаў, каб зрабіць макет беларускага Новага Запавету з псальмамі. Уладык Мікалай дадаў, што ён занадта заняты сваёю працай у сувязі з БАПЦ і ў яго проста не хапае часу, каб гэтай працай займацца. Тут жа ён задаў мне пытаньне: Юрка, ці ня мог бы ты гэтым займацца? Я пагадзіўся пад’ехаць да беларускага будынку ў Тароньце, дзе знаходзіцца БАПЦ і заля Згуртаваньня беларусы Канады, і пераглядзець тэкст. Паехаў і пабачыўся з Уладыкам ды пераглядзеў тэкст і сказаў яму, што я гатовы набіраць гэты тэкст, укласьці ў фармат кнігі і адпраўляць спадару Сёмуху тэксты асобных кнігаў Біблii для праверкі. Я ўжо меў свой першы кампутар фірмы Макінтош і вучыўся, як карыстацца ім. Пачаў набіраць тэкст і рабіць макет зь яго. Як Уладыка Мікалай, так і я чытаў тэкст і мы давалі спадару Сёмуху свае прапановы, як з нашага пункту гледжаньня трэба тое ці сёе мяняць. Некаторыя прапановы ён прымаў, іншыя пакідаў у тым выглядзе, у якім ўпершыню перадаваў нам. Новы Запавет з псальмамі выйшаў у 1995 годзе з удзелам Арганізацыі беларусаў сусьвету “Бацькаўшчына”. За гэты час спадар Сёмуха ўжо сам карысаўся кампутарам і ён ужо пераклаў ды набраў тэкст Старога Запавету. Я гэта атрымаў на мяккіх кампутарных дысках ад Уладыкі Мікалая і гэтым разам мне ня трэба было набіраць кожную літару, а толькі ўстаўляць тэкст у макет. Гэта ўсё трывала прыблізна 10 гадоў. Калі нарэшце макет цэлага Старога Запавету быў закончаны, я адправіў файлы спадару Сёмуху, а ён паведаміў мне, што трэба было крыху перарабіць файлы, бо мае файлы пайшлі да яго ў фармаце, зробленым на кампутары Макінтош. Там яны пакуль карысталіся кампутарамі паводле фірмы АйБіЭм (IBM). Перарабілі і цэлая Біблія была выдадзеная ў 2002 годзе.

***З якой мовы рабіўся пераклад Бібліі тады?***

Мне было сказана, што спадар Сёмуха атрымаў даручэньне ад Праваслаўнай Царквы ў Беларусі перакласьці старaславянскі тэкст Бібліі на сучасную беларускую мову. Ён зрабіў пераклад Дабравесьця паводле Мацьвея і здаў камісіі Праваслаўнай Царквы, якая займалася пераглядам, але іхнія папраўкі зусім не спадабаліся спадару Сёмуху, бо чальцы камісіі перамянялі і выбіралі словы бліжэйшыя да расейскай мовы. З гэтым напэўна спадар Сёмуха не згаджаўся, таму і шукаў новых супрацоўнікаў і спонсараў. Праўда, спадар Сёмуха добра ведае нямецкую мову і ён, як я разумею, глядзеў у пераклад Бібліі, зроблены Лютэрам. Таксама ён глядзеў у іншыя славянскія мовы. Павінен сказаць, што шмат з таго, што я, ведаючы ангельскія пераклады, прапаноўваў яму, ён прымаў і укладваў у свой пераклад. Уладыка Мікалай таксама прапаноўваў нямала перамен, але як я разумею, большай часткі зь іх спадар Сёмуха не прыймаў.

***Ці Вы памятаеце якім тыражом была выдадзена Біблія, перакладзеная Васілем Сёмухам, і ці Вы атрымлівалі якія-небудзь водгукі пра яе?***

Тыраж выданьня Новага Запавету з псальмамі быў 5.700 асобнікаў. Тыраж поўнай Бібліі – 10.000 асобнікаў. Што тычыцца рэакцыі ад людзей, я толькі магу сказаць, што беларусы, якія любяць беларускую мову і хочуць ёю карыстацца, былі вельмі задаволены тым, што нарэшце зьявіўся пераклад поўнай Бібліі на сучасную беларускую мову. Многія казалі мне, што гэта іх моцна цешыць. І нават сёньня сьвядомыя беларусы, якія чуюць чытаньне Бібліі на сучаснай беларускай мове, выказваюць сваю задаволенасьць тым, што знайшліся людзі, якія паклапаціліся працай, каб выдаць беларускі пераклад Бібліі. І я цешуся з таго, што магу чытаць Гасподняе слова на маёй першай матчынай мове. Я лічу, што, прыняўшы ўдзел у гэтай справе, я часу не змарнаваў, бо няма нічога мілейшага за тое, каб чуць Гасподнія словы на матчынай мове.

***Чаму на Ваш погляд так мала людзей ў Беларусі ўжываюць беларускую мову і чаму Вы лічыце, што царква павінна рабіць нешта каб папулізаваць родную мову? Ці гэта не нацыялізм, які прыводзіць да негатыўных вынікаў?***

Чаму мала людзей ў Беларусі не карыстаюцца беларускай мовай? Таму, што ў большасьці выпадкаў у школе іх вучылі і яшчэ вучаць, карыстаючыся расейскай мовай. Шмат залежыць ад таго, на якой мове чалавек чуе школьныя лекцыі. Да таго ж, на якой мове людзі ў тваім атачэньні размаўляюць, на той жа і сам будзеш ты. Гэта таксама ідзе ад бацькоў. Калі бацькі размаўляюць у хаце па-расейску, то тое самае будзе паўтараць іхняе дзіця. Я лічу, што кіраўніцтва краіны Беларусі, асабліва ў аддзеле адукацыі, вырашае і выдзяляе, на якой мове будзе гаварыць

насельніцтва. Я за тое, каб у беларускіх школах настаўнікі і настаўніцы выкладалі лекцыі па-беларуску, бо Беларусь – гэта калыска беларускай мовы. Беларусы маюць сваю дзяржаўнасьць і яна, як краіна і як народ, адрозьніваецца ад іншых народаў. Нават расейскамоўныя беларусы лічаць, што яны і іхні народ адрозьніваецца ад іншых і працягваюць называць сябе беларусамі. Чаму ж не адрозьнівацца ад іншых народаў моваю? Для мяне гэта нешта нарматыўнае. Праўда, застаўляць чалавека, які ня ведае беларускай мовы, ня трэба, але чым больш школьнікі будуць размаўляць зь першых класаў і далей, тым больш势 стануць і іншыя ў краіне. Паскорыць штучнымі тэмпамі гэты працэс ня трэба, але мала-памалу гэтую сітуацыю можна зьмяніць.

Ці царква павінна папулізаваць беларускую мову? Я таго погляду, што можна было б падахвочваць напрыклад сьпевакоў і хоры выконваць песьні ў цэрквах і на беларускай мове, даваць людзям магчымасьць выступаць зь беларускімі духоўнымі паэмамі і нават даваць тым, хто гатовы і здольны, прапаведаваць па-беларуску. Ізноў паўтараю, застаўляць ніхто ня можа і не павінен. У царкоўным служэньні мы славім Бога і гэта павінна займаць першае месца ў выказваньнях і казаньнях. Нам трэба заклікаць людзей да Бога, да Хрыста і хаджэньня ўсьлед за Ім. У гэтай справе, ці будзем мы рабіць гэта па-расейску або па-беларуску, гэта другараднае пытаньне, бо мы беларусы разумеем абедзьве мовы.

Ці гэта вядзе да нацыяналізму і адмоўных вынікаў? Усё залежыць ад таго, у якім духу мы гэта робім. Застаўляць нікога мы ня можам. Трэба даваць людзям свабоду карыстацца тою моваю, на якой ім хочацца гаварыць. Як хто хоча выказвацца і на якой мове – калі ласка! Але нічога дрэннага я ня бачу ў тым, што мне (і, думаецца, многім іншым у Беларусі) прыемна гаварыць зь людзьмі па-беларуску, чытаць беларускую Біблію і нават прапаведаваць па-беларуску, бо мая першая мова была і застаецца – беларуская. Яна мая матчына мова і я хачу чытаць Слова Божае і маліцца на ёй. Мне здаецца, што ёсьць нямала беларусаў, якія праяўляюць падобнае жаданьне.

***Як і колькі Вы чытаеце Біблію?***
Штодня, калі гэта магчыма. Хоць кароткі ўрывак, а іншым разам – доўгія ўрыўкі. Ва ўсім гэтым, каб пачуць голас і словы Госпада і паводле прачытанага і пачутага жыць.

***Ці Ваша жонка і дзеці таксама любяць і чытаюць Біблію?***
Так, жонка чытае для сябе і я чытаю для сябе. Але мы таксама разам чытаем Біблію і молімся. Нашыя сыны зь сем’ямі чытаюць Біблію, найчасьцей пасьля вячэры, як

мы рабілі, калі хлопцы яшчэ жылі з намі.

***Ці чыталі (чытаеце) Вы Біблію разам з дзяцьмі і унукамі?***

Нашыя сыны жанатыя і ўжо маюць свае сем'і, але мы зь імі і іхнімі жонкамі прыйшлі да высновы, што кожны раз, калі мы усе разам зьбіраемся на сьвяты, напрыклад, або каб адсьвяткаваць дзень народзінаў, перад разьвітаньнем хтосьці з нас будзе мець на ўвазе асобнае месца зь Бібліі, якое ён або яна прачытае голасна і памоліцца за ўсіх нас. Так ужо робім некалькі год запар. І таксама бываюць тыя моманты, калі мы з унукамі і ўнучкамі сядзім ды чытаем зь Бібліі і зь імі молімся.

***Што Вы можаце пажадаць чытачам нашага часопіса?***

Зычу ўсім пазнаць Бога і Хрыста праз рэгулярнае чытаньне Бібліі. Гэта дае сапраўдны кірунак для жыцьця, паказвае нам, да чаго імкнуцца і чым займацца, маючы на ўвазе Гасподнюю волю для нас. Апостал Павал напісаў маладому супрацоўніку Цімафею: “Усё Пісаньне боганатхнёнае і карыснае для навучаньня, для выкрываньня, для выпраўленьня, для выхаваньня ў праведнасьці, каб быў дасканалы Божы чалавек, да ўсякае добрае справы падрыхтаваны”. Госпадзе Божа, дапамажы кожнаму з нас зьвяртаць сур'ёзную ўвагу на Тваё Слова, чытаць яго і жыць згодна з Тваёй воляй для нас, што мы бачым на старонках Твайго сьвятога Слова.

**Interview with Yu. Rapetski**

***(Abstract, magazine “CULTURE, NATION”, June 2017, issue 18, pp.94-103)***

The magazine "Culture, Nation" publishes the full text of the interview with Yu Rapetski which he gave to the magazine "The Source of Life/Krynitsa Zyccja" where it will be published in an abbreviated form.

**Да 75-годдзя сп. Сяргея Панізьніка**

**Рэдакцыя часопіса "Культура, Нацыя" шчыра віншуе свайго сябра сп. Сяргея Панізьніка з 75-годдзем і зычыць яму моцнага здароў'я, жыцьця-радасьці і плённай працы.**




Сп. С. Панізьнік вядомы беларускі паэт, перакладчык, краязнаўца, актыўны грамадскі дзеяч. Сяргей Панізьнік нарадзіўся 10 мая 1942 года у вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Сябра Саюза беларускіх пісьменьнікаў з 1967 года. Старшыня Таварыства "Беларусь-Латвія".

Мае асабістыя кантакты пачаліся з перапіскі нядаўна, толькі год таму назад, падчас падрыхтоўкі 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая прайшла 3-5 верасьня мінулага года ў Аттаве. З яго пісем, дасыланых кніг і шматлікіх зьвестак я паступова адкрываў для сябе іншыя многагранныя асаблівасці характару, таленту і шчырасьці сп. Панізьніка. Відаць не знойдзецца ні аднаго жанра літаратуры, дзе б не меў свой значны сьлед сп. Панізьнік – тут 11 кніг сваіх вершаў і кнігі паэзіі для дзяцей, нататкі пра жыцьцё сваіх сучаснікаў, шчодрыя вершаваныя прысвячэньні сваім сябрам і калегам па пяру, зьбіраньне аўтографаў, пераклады вершаў на беларускую і з беларускай мовы, укладаньне зборнікаў, песенны жанр, пошуковая праца і публікацыі па гісторыі беларускай літаратуры. У дадатак, сп. Панізьнік - гэта кладзезь біяграфічных зьвестак з жыцьця беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Ужо адзін толькі пералік зробленага сп. Панізьнікам сведчыць аб яго шчырых адносінах да любой справы, за якую ён бярэцца. Па-першае, на гэта не кожны здольны. Па-другое, ён не толькі бярэцца за розныя справы, але і даводзіць іх да

лагічнага канца – гэтую справу можна патрымаць у руках і пачытаць, ці пабачыць у музеях, створаных пры яго непасрэдным удзеле (“Хата бабы Параскі”, “Музей радзімазнаўства пры Лявонпальскай сельскай бібліятэцы”, “Хата бабкі Ядзвінні з роду Панізьнікаў).

Гэтая шчырасць пацьвердзілася пры непасрэднай сустрэчы са сп. Панізьнікам у Таронта, 27 мая гэтага года падчас круглага стала беларуска-канадыйскіх паэтаў на Кангрэсе Канадыйскай федэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук. За кароткія 30 хвілін сп. Панізьнік здолеў расказаць пра сябе, прадэманстраваць свае апошнія новыя кнігі, паказаць, зробленую ім аплікацыю пра Ф. Скарыну, прысьвечаную 500-годдзю беларускага кнігадрукаваньня. І ўсё гэта – эмацыйна, шчыра, талкова. Нездарма многія называюць яго Дон-Кіхотам у беларускай літаратуры, і не толькі за зьнешняе падабенства з героем кнігі Сервантэса, якое склалася ў людзей, чытаўшых кнігу ці глядзеўшых фільмы пра Дон-Кіхота, а менавіта за такія духоўныя якасьці як шчырасьць і шчодрасць, неабыякавасьць і гарачачнасць да беларускіх спраў.

Сьведчаньнем таму і яго вершы, прысьвечаныя радзіме, сваёй сям’і, філасофскім роздумам пра жыцьцё, якое вы ўбачыце ў некалькіх выбраных радках, якія кранулі маю душу (хаця кожны чытач можа знайсці адпаведныя іх настрою вершы Сяргея Панізьніка):

**На беразе Бацькаўшчыны**

Ячмяні пад яблынямі спеюць,

Спеюць яблыкі на ячным полі.

Столькі тут адвечнасці і волі:

Іх і навальніцы не развеюць.

Так і паўтараецца ў прыродзе:

З кораня вядзецца ўсё, з насення.

Вось і я, мацерыка насельнік,

Чую карані ў сваім народзе.

.........................................................

**Знікае боль ...**

Прыдумкі

недасведчаным

дарую,

Знікае боль у стылай цішыні ...

Жыву я!

Вы ўсе бачыце - жыву я!

Выпростваюць

і мае плечы дні.

І каліўца, якое нікла долу,

з-пад сэрца вымкне,

нагавор міне.

... А сёння я збіраюся дадому,

каб там вясёлым бачылі мяне.

...................................................

**Матчына малітва з дна мора дастане**

... Сварыўся Бог,

На маму не сварыўся,

Бо за мяне малілася яна.

Грымоццю мой камель не пакарыўся.

Я й сёння не баюся Перуна.

.................................................................

**Вольнаму воля, багатаму рай**

“У гэтым годзе” – сёлета,

“Ў мінулым годзе” – летась ...

На мудрым слове – золата,

На трапным слове – ветразь.

Якое дрэва, такі і клін,

Які бацька, такі і сын.

Не ўжорнах перамолата

Зямлі маёй карэньне, -

Ліняюць фразы волаты

У думанні, маўленні.

..........................................................................

**Два промні**

Што ёсць радней на гэтым свеце?

Зацалаваная шчака!

Смяюцца ласкавыя дзеці –

Мае сыночак і дачка.

Я халады свае не помню, пякучы забываю крок.

Працяг жыцця – двухкрылы помнік –

Мае дачушка і сынок ...

..........................................................................

**Малітва Скарыны**

Во гэтак сама як дзічына
на дальні выбегла лужок,
а прызнае саваё лаўжо;
як птушачка з-пад аблачыны
палі, разлогі аглядае,
а ведае сваё гняздо
ў траве высокай і густой;
як рыба: ў чарадзе гуляе,
плыве да берага чужога,
а чуе родныя віры;
як пчолы: ў полі да пары,
а ворага ля іх парога,
вулей баронячы, зваюоць;

таксама й людзі: да зямлі,
дзе ўзгадаваныя былі,
дзе Бог ім сэрца акрыліў, -
любоў вялікую мілуюць.
.......................................................

**Дыяганаль нацыі**

... Калі ж вязьмом дзяржавы будзем?

Так мала трэба: парукацца, -

Каб ад сябе не адракацца

І сяюра не тапіць у брудзе ...

Чакае беларусаў праца:

Па жменьцы ў нацыю сабрацца.

......................................................................

Будзем спадзявацца на далейшыя здзіўленьні, выкліканыя творчасьцю Сяргея Панізьніка, і на новыя цікавінкі, прыгатаваныя слаўным сынам беларускай зямлі.

**З 75-гадовым юбілеем!**

**To the 75-th Anniversary of Famous Belarusian Poet, Sjarhei Paniznik**

***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.104-109)***

The editorial board of "Culture, Nation" congratulates his colleague, Mr. S. Paniznik, with 75-year anniversary and wished him good health and further fruitful work for the good of our country.

**С. Панізьнік: Да 80-га юбілею Ніны Дзябольскай**

***Дзябольская Ніна Сяргееўна** нар. 25.06.1937 г. Скончыла Інстытут замежных моў, мае і мастацкую адукацыю. Працавала перакладчыкам, выкладчыкам. У 2005 г. выдала кнігу "Стихотворения. Переводы. Переложения". У 2011 г. у Мінску выдадзены зборнік беларускай паэзіі "У краіне паэтаў", дзе ў перастварэнні Н.С. Дзябольскай надрукаваны вершы 30 аўтараў.*



**Сяргей Панізьнік: ВОПЫТ І ВЫНІК**

*Пад 80-ы крок творчага жыцця паэта, перакладчыка, мастака Дзябольскай Ніны Сяргееўны*

Масква – сяброўвачка Парыжу:
Дзябольская Максіму-Стрыжу
узлёт ускрыліла…
Палёт
над Францыяй – каторы год! +)

А ў Яраслаўлі ўжо народ
мацуе дах Музея, спод,
бо юбілейны ўспыхне сход.++)

Дзябольскай выбухне зварот:
Тут
Багдановіч творчы плод
пакінуў Вечнасці ў даход!

x x x
Масква і ў Менск вядзе паход.
“Француз” Максім гукнуў на ўзвышшы:

- О! Беларусь займела нішы,
каб нам “бонжурыцца” ў Парыжы,
гучаць з Еўропай у акорд.
Усклікнуў і Берлін: - Mein Gott !
Не ляжа
маё Слова
крыжам.

x x x
Узрадаваўся і Дзіядор: +++)
- Мой сябар даляцеў да зор!

x x x
Праз межы мчыцца Мовы вобад,
бо в ы н і к даў
Дзябольскай в о п ы т !

-----------------------------------------------------------------

+) Першыя надрукаваныя пераклады былі ў 2011 г. (“Из опыта перевода на французский язык стихотворений Максима Богдановича». «Культура, Нацыя», №16, снежань 2016 г., ст. 46—57).

++) У Яраслаўлі 9.XII. будуць адзначаць 25-годдзе заснавання ўстановы “Цэнтр беларускай культуры. Музей Максіма Багдановіча”

+++) Дзіядор Дзмітрыевіч Дзябольскі – родны дзядзька Ніны Сяргееўны.

6.06.2017

**Ніна Шчарбачэвіч: Ніна Дзябольская - «Іншая краіна, народ іншы»**
*(Газета "Звязда", 31 жніўня 2013 г.)*

Сваё адчуванне і разуменне Беларусі ў масквічкі з'явілася пасля асабістага знаёмства з прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі, пасля ўдумлівага асэнсавання і працы з творчасцю Максіма Багдановіча і іншых паэтаў, пасля неаднаразовага наведвання нашай краіны.

Месца ў сэрцы Дзябольскай Беларусь заняла шмат у чым дзякуючы яе дзядзьку Дзіядору Дзябольскаму. Ён вучыўся ў Яраслаўлі адначасова з Максімам Багдановічам, там яны і пасябравалі. Паэт нават часам бываў у гасцях у доме бацькоў Дзябольскага. Таму менавіта дзядзька праз пэўны час дапамог жанчыне адчуць і зразумець беларускую паэзію, адкрыў ёй, як яна аднойчы пісала, «дзівосна цэласны свет духоўна блізкіх мне людзей…»

У 1960-х, калі ствараўся Літаратурны музей Максіма Багдановіча, да Дзіядора звярнуліся з Мінска, папрасілі, каб ён напісаў свае ўспаміны пра Багдановіча. Ён зрабіў гэта, іх апублікавалі. Пасля смерці дзядзькі ў 1964 годзе супрацоўнікі музея звярнуліся да Ніны Дзябольскай з просьбай занатаваць яе ўспаміны пра Дзіядора. Жанчына не толькі напісала тое, што памятала і адчувала, але і перадала музею прадметы, кнігі, якія яму належалі. Яе сталі запрашаць на розныя канферэнцыі, прысвечаныя класіку беларускай літаратуры. На іх яна даведалася, што Багдановіча перакладаюць на англійскую мову, была вельмі заінтрыгавана і падумала, што на французскай ён будзе гучаць лепш…



Паспрабавала. Аказалася, Багдановіч сапраўды вельмі добра кладзецца на французскую мову. Перакладчыца адзначае, што ён сам быў пад уплывам французскай паэзіі, часта выбіраў з яе эпіграфы да сваіх твораў. Увогуле ў паэтах пачатку ХХ стагоддзя, мяркуе яна, — узяць і французскіх, і нямецкіх, і рускіх, і беларускіх — можна знайсці нешта падобнае, якімі б рознымі яны ні былі. Гэта агульнае светаадчуванне, моцны лірычны пачатак. Яны адгукаліся на ўсе падзеі, якія адбываліся тады, бо час быў даволі напружаны. Але ў той жа момант у іх ёсць пэўны спакой, лагоднасць, калі параўноўваць з пазнейшымі паэтамі Расіі, з тымі ж Маякоўскім, Ясеніным, у якіх настрой бывае нават агрэсіўным.

Дзябольская стала рэгулярна наведваць Беларусь, наладжваць стасункі з нашымі творцамі. На адным з паэтычных вечароў Сяргея Панізніка ў касцёле падышла і сама пазнаёмілася з ім, бо была надзвычай уражана яго мовай, інтэлігентнасцю. Так пачалося іх творчае сяброўства.

Праз нейкі час Сяргей Панізнік папрасіў яе перакласці «Ксты» Рыгора Барадуліна. Дзябольская спачатку адмаўлялася, аднак яе ўгаварылі, параіўшы выдатнага кансультанта па беларускай мове — Івана Бурсава, беларуса, які жыве ў Маскве (ён усё жыццё перакладаў з беларускай мовы на рускую, у «Літаратурнай газеце» вёў рубрыку «Два стагоддзі беларускай паэзіі», у якой на працягу некалькіх гадоў друкаваў біяграфічныя звесткі пра паэтаў і некаторыя свае пераклады).

Першым вершам Барадуліна, які пераклала Ніна Дзябольская, стаў «Хмарны настрой» — знайшла самы кароткі. Ніна Дзябольская адзначае, што пры даслоўным перакладзе, калі нічога не змяняла, адразу атрымалася ў рыфму. Аднак Барадуліна было больш складана перакладаць, чым Багдановіча, бо ў яго шмат дыялектных слоў, мяркуе яна. Таму Бурсаў вельмі дапамог, і не толькі ў плане мовы. Ён увёў яе ў беларускую паэзію і гісторыю, дапамог адчуць дух народа.

Пасля гэтага Дзябольская ўжо сама зацікавілася, стала шукаць сучасных аўтараў. Яна моцна захапілася перакладамі, і калі заўважыла, што ўжо зроблена даволі шмат, вырашыла, што трэба выдаць кнігу. Так з’явіўся зборнік перакладаў твораў больш чым 20 паэтаў з Беларусі на французскую мову, у тым ліку некалькі дзясяткаў вершаў Багдановіча.

Перакладае Дзябольская і сучасных паэтаў, яе любімыя — Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Раіса Баравікова, Вера Буланда, Валерыя Кустава і іншыя. Якімі ж убачыліся Дзябольскай сучасныя беларусы? Надзіва ўважлівыя людзі, мяркуе яна і кажа, што на бытавым узроўні мы вельмі адрозніваемся ад расіян мяккасцю, унутранай незалежнасцю і павагай да сябе. Народ у нас нашмат больш

жыццесцвярджальны, упэўнена перакладчыца. Адрозненне вельмі вялікае, і пра гэта яна напісала ў маскоўскім часопісе «Скарыніч», які выдаецца беларусам Аляксеем Каўкам, што жыве там. Масквічка надрукавала артыкул пад назвай «Іншая краіна, народ іншы» і адзначыла, што адчувала гэта заўсёды, калі прыязджала сюды.

Жанчына мае добрыя стасункі з беларускай інтэлігенцыяй і адзначае: «ўзаемапавагу, якой няма паміж рускімі пісьменнікамі. Тут не відаць ніякай зайздрасці, а пра Расію гэтага нельга сказаць».

Гэтым разам Дзябольская прыехала ў Мінск, каб забраць новую кнігу. Гэта пераклады на французскую, без арыгіналаў, з рускай, беларускай і польскай. Візіт быў вельмі своечасовым, бо аказалася, што ў Мінску якраз праходзіць Міжнародны з’езд славістаў. Яна пазнаёмілася са славістамі з Францыі, Бельгіі, перадала ім кніжку, папрасіла напісаць свае заўвагі.

Глыбока прапусціўшы праз сэрца, натхніўшыся творчасцю беларускіх паэтаў, Ніна Дзябольская піша і ўласныя вершы.

**Ніна Дзябольская: Дарога ў Пераслаўль**

*(пераклаў з рускай мовы Сяргей Панізнік-Папар)*

Ля гасцінцаў лашчыцца арэшнік,
вольха серабрыстая стаіць,
і бяроза, як маркотны грэшнік,
хоча ў скразнякі слязу даліць.
У таполі ліставей, рабіна
гронкай – як распаленай – махне.
Сенажаць запоўненая клінам --
гэта статак у стадолы мкне.
Шэры мох, аранжавыя клёны,
супакой у жменічках двароў…
Абдымае мой пагляд натхнёны
восеньскае хараство дароў.

**х х х**

Дні вандруюць без мяне,
а вось ночы слухаць мушу.
Толькі вочы я прымружу --
госці-родзічы ў мяне.
Дні вандруюць без мяне.

**х х х**

За кожным новым курганом
узгор"е бачыцца другое.
Жыццё –нібыта той паром --
сплывае, надта ж дарагое.
А нам на ўзвышак, зноў у шлях,
каб дыхала грудзей напруга.
Не супыняйся на палях!
Твая ахова – засень друга.

**На лецішчы**

Жвавы вецер. Возера ў трывозе.
І ставок у зморшчыках стаіць.
Зырка чырванее пры дарозе
барбарыс: яму красу таіць.
Я тут, насычаючы пагляды,
свой апошні гімн складу вясне.
У мяне засеянае ляда --
цішыня і возера ў акне.

**На мацерыку**

Ліхацтва скалаў, водгалас раўнін,
шаленства непакорных вадаспадаў,
туманаў пераходны сплін
і лапатня прыдуманых каскадаў.

Лясоў задума, стэпаў варажба,
навала навальніц, паспешлівасць маланак,
з далоняў поля баразён бажба,
журба святой крыніцы між палянак.

…………………………………………………….
Заўвагі перакладчыка
Пераслаўль-Залескі -- горад у Залатым кольцы Расіі. Сплін – самота, хандра.

Вершы з кнігі Ніны Сяргееўны Дзябольскай "Стихотворения». Мінск, 2013. Рэдактар Іван Цярэнцьевіч Бурсаў (Масква).

**To the 80-th Anniversary of Nina Debolskaja**

***(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2017, issue 18, pp.110-116)***

In the section "Anniversaries" we publish a selection of materials prepared by Mr. S. Paniznik dedicated to the 80th anniversary of Nina Debolskaja known translator of poems of Belarusian poets.

*Важнейшыя юбілейныя даты ў жыцьці беларусаў у 2017*

**1155 год Полацку** (у 862 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**950 гадоў Мінску** (у 1067 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**655 гадоў** назад (1362) войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Альгердам разграмілі аб’яднаныя сілы Залатой Арды на р. Сінія Воды

**500 годдзе беларускаму кнігадруку - у 1517 годзе Францыск Скарына надрукаваў першую беларускамоўную кнігу “Псалтырь”**

**490 гадоў** з дня нараджэння **Канстанціна Васіля Астрожскага**, палітычнага і культурнага дзеяча ВКЛ *(1527-1608)*

**400 гадоў** з часу заснавання (1617) гімназіі ў Слуцку, адной са старэйшых сярэдніх навучальных устаноў у Беларусі (з 1788 г. публічнае евангелісцкае вучылішча, з 1809 г. павятовае вучылішча, з 1827 г. гімназія, у 1868 – 1918 гг. класічная гімназія)

**375 гадоў** з дня нараджэння **Абуховіча Тэадора** (1642 – 1707), пісьменніка-мемуарыста, дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага

**255 гадоў** назад (1762) у Гродне заснавана балетнае вучылішча (існавала да 1785 г.)

**165 гадоў** назад (1852) тэатр В.Дуніна-Марцінкевіча паставіў у Мінску першую беларускую оперу “Сялянка” (“Ідылія”) (музыка С.Манюшкі і К.Кржыжаноўскага, лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча)

**155 гадоў** з часу выдання (1862) беларускага буквара (выдадзены ў Варшаве А.У.Аскеркам)

**135 гадоў** з дня нараджэння вялікіх песняроў беларускага народа, класікаў нацыянальнай літаратуры **Янкі Купалы і Якуба Коласа**

**110 гадоў** назад (1907) у Вільні створана выдавецтва “Нашай Нівы” (існавала па 1914 г.)

**110 гадоў** назад (1907) створана першая беларуская тэатральная трупа Ігната Буйніцкага (існавала па 1913 г.)

**100 год** ад пачатку працы **І-га Ўсебеларускага сходу** (сьнежань 1917)

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**

**1155 years of Polotsk** (in 862 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**950 years of Minsk** (in 1067 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**655 years** ago, in 1362, troops of the Grand Duchy of Lithuania, led by **Alherd** defeated the combined forces of the Golden Horde on the river Blue Water

**500 anniversary of Belarusian book printing - in 1517 Frantsisk Skaryna printed the first Belarusian-language book "Psaltyr"**

**490 years** since the birth of Konstantin V. Astrorzsky  (1527-1608)

**400 years** since the founding of gymnasium in Slutsk (1617), one of the oldest secondary schools in Belarus (from 1788 public evangelical school, a school district in 1809, in 1827 high school, in 1868 - 1918 Classical Gymnasium)

**375 years** since the birth of Abukhovich Theodore (1642 - 1707), writer, memoirist, a statesman of the Grand Duchy of Lithuania

**255 years** ago ballet school was founded in Grodno ((1762, it existed until 1785)

**165 years** ago, in 1852, theater placed in Minsk **the first Belarusian opera** "The Maid" ("Idyll") (music by S. Manyushka, K. Kryzhanouskaga, libretto by V. Dunin-Marcinkevich)

**155 years** since the publication (1862) of **Belarusian primer** (ABC) published in Warsaw by A.U.Askerka

**135 years** since the birth of the great poets of the Belarusian people, the classics of the national literature - **Yanka Kupala, Yakub Kolas**

**110 years** ago (1907) in Vilnius publishing house "Nasha Niva" was established (existed till 1914)

**110 years** ago (1907) the first Belarusian theater troupe I. Bujnitskaga was created

**100 years from the 1st All-Belarusian Congress (December 1917)**

Sources:
*http://moiro.by/index.php?option=com_k2&view=item&id=1935&Itemid=14&lang=be*
*https://biblioshtuchki.jimdo.com*

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**
***(Abstract, magazine “CULTURE, NATION”, June 2017, issue 18, p.117-119)***

*Наступны 19-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў верасьні 2017 года*